ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 42 (2621)
ПЯТНІЦА
20
кастрычніка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ЧАКАЕМ УРАЧЫСТАГА ДНЯ

*Перад адкрыццём помніка народнаму песняру*

НА ПЛОШЧЫ Якуба Коласа — шумна. Грукочуць малаткі чаканшчыкаў, гудуць самазвалы, раз-пораз гучаць каманды:

— Яшчэ, яшчэ... Стоп!

— Раствор давай!

— Два чалавекі — на разгрузку!

І—людна. Да адкрыцця помніка вялікаму беларускаму пісьменніку лічаныя дні. Але каля манумента ўжо шмат гледачоў. Ідуць з цікавасцю, з хваляваннем—якім жа ён будзе! А ён—бронза і граніт—апрануты пакуль што ў рыштаванні, урачыста-строга ўзвышаецца над плошчай.

Якім ён будзе!.. Можа, дакладней спытаць: якой ЯНА будзе, уся плошча!.. Бо помнік Якубу Коласу — цэлы комплекс.

Прыгожай. Захапляюча прыгожай.

Лічбы: 6 фантанаў, 6 кветнікаў (чырвоныя ружы), 3 азярцы (з кустамі ракіт), 200 бярозак, 9 600 квадратных метраў. Цудоўны аазіс спакою ў адным з самых шумліва-дзелавых раёнаў сталіцы рэспублікі.

Аўтары гэтага хараства — скульптар З. Азгур і архітэктары Ю. Градаў і Л. Левін. А «праводзяць» іх задуму ў жыццё будаўнікі БУ-72 трэста «Спецбуд» № 15 і чаканшчыкі з ленінградскага завода «Манумент-скульптура».

— Будаўніцтва комплексу мы пачалі вясной, у сакавіку, — расказвае старшы прараб Мікалай Андрэевіч Кулік.—Работы ідуць паспяхова, дакладна па графіку. Цяпер завяршаецца ўкладка пліт, разбіццё кветнікаў. Помнік будзе адкрыты ў тэрмін!

Выдатна працуюць брыгады ўкладчыкаў, якія ўзначальваюць брыгадзіры В. Навасад, В. Малайчук, М. Каўмак. Не адстаюць ад іх і ленінградцы (брыгадзір Б. Камісараў). Шумна на плошчы Якуба Коласа...

...Пройдуць гады — дзесяць, дваццаць, сто... І гэтыя здымкі рэпартажу пра наш сённяшні, звычайны дзень будуць для нашчадкаў гісторыяй — даўняй, хвалюючай...


Скульптар З. Азгур (справа) вельмі ўважлівы да работы А. Васільева, пацініроўшчыка Ленінградскага завода «Манумент-скульптура».


Архітэктар Ю. Градаў (справа) і гранітчык М. Клімовіч.


Чаканшчыкі Б. Камісараў і В. Лаўрушаў.


Тут будуць кветкі...


Ідзе ўкладка пліт.

Фота Ул. КРУКА.



**ДЗЕЯЧЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА, РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ! ВЫСОКА НЯСІЦЕ СЦЯГ ПАРТЫЙНАСЦІ І НАРОДНАСЦІ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА, УДАСКАНАЛЬВАЙЦЕ МАСТАЦКАЕ МАЙСТЭРСТВА, АДДАВАЙЦЕ ЎСЕ СВАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ ВЫХАВАННЮ БУДАЎНІКОЎ КАМУНІЗМУ!**

(З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС.

# ВІНШУЕМ!

*Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 13 кастрычніка 1972 года за заслугі ў развіцці беларускага савецкага выяўленчага мастацтва і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння мастак ЛІЎШЫЦ Хаім Майсеевіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## ШВЕДСКАЕ ТУРНЭ

У канцы кастрычніка ў Швецыі адкрываюцца Дні савецкай культуры. Яны будуць праходзіць з удзелам Беларусі. Фотавыстаўкі, маляўнічыя экспазіцыі твораў графікі, беларускіх народных промыслаў і прыкладнога дэкаратыўнага мастацтва, кніг, дзіцячай творчасці раскажуць аб дасягненнях прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі, народнай асветы.

Вечарам 17 кастрычніка з Мінска ў Маскву выехала вялікая група беларускіх артыстаў, якія накіроўваюцца ў Швецыю. Яна пазнаёміць жыхароў гэтай скандынаўскай краіны з развіццём беларускага вакальнага, харэаграфічнага і музычнага мастацтва. У саставе групы — салісты акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, філармоніі, Дзяржаўнага ансамбля народнага танца БССР, педагогі-інструменталісты Мінскага музычнага вучылішча. Перад шведскай публікай выступяць спевакі—лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага А. Рудкоўскі, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу імя Глінкі М. Здановіч, заслужаныя артысты рэспублікі цымбаліст В. Бурковіч, салістка ансамбля народнага танца С. Вуячыч, вядомая выканаўца народных песень В. Шутава і іншыя майстры мастацтваў.

Беларускія артысты правядуць у Швецыі 28 дзён, дадуць 20 канцэртаў у 18 гарадах — Стакгольме, Кіруне, Гётэборгу, Пітэо, Карлстадзе і іншых.

БЕЛТА.

# ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСІ— ЗЯМЛЯ ЛЮБОВІ

*СУСТРЭЧА З ЛІТАРАТАРАМІ ДРВ У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР*

— Мы ненавідзім, таму што мы любім. Зямля Беларусі, якая ўпарта супраціўлялася фашысцкім захопнікам, — зямля любові. Вось таму і прыехалі мы сюды з такім хваляваннем, — так пачаў сваё выступленне ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР член праўлення Саюза в'етнамскіх пісьменнікаў, паэт, вядомы ў сваёй краіне і за яе межамі, лірык Суан Зіеў на сустрэчы, якая была арганізавана ў мінулую пятніцу. Сярод удзельнікаў яе — нямала беларускіх пісьменнікаў, якія самі прайшлі ваеннымі дарогамі. Гэта генерал-маёр у адстаўцы М. Аляксееў, празаікі М. Кругавых, А. Асіпенка, В. Рудаў і іншыя. Побач з імі малодшыя таварышы па пяру: намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Грачанікаў, А. Вярцінскі, Я. Сіпакоў, Г. Бураўкін.

Аб агульнасці лёсу беларускай і в'етнамскай літаратур, аб агульнасці лёсу двух братніх народаў ішла цёплая, задушэўная гаворка. Дзевяць гадоў прайшло з дня першай сустрэчы з в'етнамскімі літаратарамі ў Беларусі. За гэтыя гады ў нас нямала зроблена па прапагандзе братняй літаратуры. Анталогія в'етнамскай паэзіі «Апалены лотас», што выйшла не так даўно, найбольш поўная з усіх, якія выдаваліся ў нашай краіне. Вось чаму, калі слова далі паэту-перакладчыку Я. Семяжону, в'етнамскія пісьменнікі слухалі яго з асаблівай цікавасцю.

Празаік Даан Зіой нарадзіўся ў паўднёвым В'етнаме, прыняў баявое хрышчэнне ў атрадах супраціўлення. У сваіх творах ён часта звяртаецца да тэматыкі вайны. Найбольш вядомая яго кніга — «У джунглях Поўдня». Цяпер Даан Зіой піша невялікія апавяданні і аднаактовыя п'есы, якія перадаюцца па радыё і распаўсюджваюцца ў выглядзе лістовак сярод салдат марыянетачнай арміі. Правільна гаварыў кіраўнік дэлегацыі Суан Зіеў, што «гэтыя творы, якія нагадваюць газетныя артыкулы, — своеасаблівыя кулі і снарады па ворагу. Няхай нядоўга яны будуць жыць, але зробяць сваю справу ў барацьбе з ворагам».

І Даан Зіой, і Дао Ву шмат гаварылі аб сваёй літаратуры, расказвалі аб творах, якія карыстаюцца папулярнасцю не толькі ў В'етнаме, але і за яго межамі. Дао Ву з удзячнасцю выказаўся пра творчасць савецкіх пісьменнікаў, якіх добра ведаюць і чытаюць у яго на радзіме.

Закончыліся выступленні, а размова працягвалася. На пытанні беларускіх пісьменнікаў адказвалі в'етнамскія госці. Тыя ж у сваю чаргу атрымлівалі вычарпальныя адказы ад сваіх беларускіх калег па пяру.

Добрым напамінкам аб братняй Беларусі будуць кніжкі, якія атрымалі на памяць в'етнамскія пісьменнікі. А ў нас у Беларусі з'явяцца новыя творы сяброў з далёкага, але блізкага В'етнама.

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

# ХЛЕБ-СОЛЬ МАЙСТРАМ МАСТАЦТВА

Свята мастацтваў народаў СССР, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза, прыйшло на беларускую зямлю. Яно адкрылася 15 кастрычніка вялікім канцэртам у зале Брэсцкага Дома палітычнай асветы. Дарагіх гасцей — калектыў Дзяржаўнага заслужанага акадэмічнага ўкраінскага народнага хору імя Г. Вяроўкі, канцэртнай групы Узбекскай ССР і беларускіх майстроў мастацтваў — артыстаў Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета і Дзяржаўнай філармоніі—сардэчна вітаў намеснік старшыні аблвыканкома М. Зайцаў.



Выступае Дзяржаўны заслужаны акадэмічны украінскі народны хор імя Г. Вяроўкі.

У ходзе свята мастацтваў перад працоўнымі вобласці выступяць Дзяржаўны акадэмічны хор Саюза ССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР А. Свешнікава, аркестр народных інструментаў Казахскай ССР, Ансамбль песні і танца Азербайджана, Ансамбль танца Арменіі, Варонежскі рускі народны хор, Народны хор Беларускай ССР і іншыя вядомыя калектывы.

□

Рускія, беларускія, грузінскія, армянскія мелодыі і песні гучалі ўчора ў перапоўненай зале Гродзенскага Дома палітычнай асветы. 15 кастрычніка тут урачыста адкрылася свята мастацтваў, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння СССР.

Перад пачаткам канцэрта яго ўдзельнікам быў уручаны румяны каравай, замешаны на нёманскай вадзе, спечаны з пшаніцы, вырашчанай на палях ардэнаноснай Гродзеншчыны.

Дарогі свята пройдуць па ўсяму прынёманскаму краю.

# КРЫНІЦА ТВОРЧАГА ПОСПЕХУ

**Ул. КОРШ—САБЛІН,**

**народны артыст СССР, першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР.**

**НЯДАЎНА я вярнуўся з чарговага пленума Саюза кінематаграфістаў СССР, на якім абмяркоўвалася пытанне «Аб задачах Саюза кінематаграфістаў у святле Пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі»**

**Усе кінематаграфісты адчуваюць, як своечасова і зусім правільна падкрэслена ў Пастанове, што «Саюз кінематаграфістаў СССР не выкарыстоўвае ўсіх магчымасцей для павышэння ўзроўню савецкага кінамастацтва». Гэта пытанне хвалюе ўсіх нас. Асабліва важна тое, што яшчэ раз указваецца на значэнне літаратурнага сцэнарыя і рэжысуры. Тут заўсёды нешта набывае новыя формы ва ўзаемаадносінах паміж пісьменнікам і творчымі работнікамі студыі, хоць патрабаванне адно — якасць, ідэйна-мастацкая глыбіня даследавання жыцця.**

**Калі кінуць позірк на пройдзены шлях, міжволі задумваешся, чаму ў дваццатыя ці трыццатыя гады маладая савецкая кінематаграфія стварала такія маштабныя, партыйныя па духу, народныя па ўсіх якасцях фільмы, як «Браняносец «Пацёмкін», «Чапаеў», «Лясная быль», «Балтыйцы», «Вялікі грамадзянін», «Мы з Кранштата», «Ленін у Кастрычніку», «Дэпутат Балтыкі», «Член урада», якія заваявалі вялікую папулярнасць у гледача! Адказ адзін: тады ў экраннае мастацтва былі мабілізаваны па загадзе сэрца маладыя энтузіясты, нядаўнія салдаты рэвалюцыі, людзі па-творчы няўрымслівыя. Яны захапілі і пісьменнікаў—сваім жаданнем шукаць, ставіць і вырашаць надзённыя тэмы жыцця народа, пракладаць новыя шляхі ў творчасці. Ніхто тады, здаецца, не «дзяліў» лаўры—гэта зроблена рэжысурай, а гэта—літаратарам-сцэнарыстам. Была сапраўдная садружнасць.**

**А цяпер! Не, ніхто не скажа, нібы і сёння няма добрых прыкладаў. Ствараюцца сапраўдныя творы кінамастацтва і ў 60—70 гады. Іх многа. Іх нават немагчыма пералічыць. Гэта «Звычайны фашызм», кінаэпапея «Вызваленне», «Наш сучаснік», «Дажывём да панядзелка», «Утаймаванне агню» і г. д.**

**Праўда, часам так званы «касавы поспех» прыпадае на даволі пасрэдныя стужкі. Гэта насцярожвае. Відаць, сама колькасць пасрэдных стужак, бывае, робіць уплыў на густы гледачоў, якія вымушаны «мірыцца» з тым, што ім паказвае пракат. І пачынаецца гэта ў большасці выпадкаў з літаратурнага сцэнарыя.**

**Зразумела, многае залежыць і ад таго, у якія рэжысёрскія рукі ён трапіць. Аднак сцэнарый застаецца першакрыніцай кінатвора. Ён абумоўлівае яго ідэйна-мастацкі ўзровень. Ідэйная накіраванасць, змест, вобразы, узаемаадносіны герояў, іх жыццё і ўчынкі, унутраны свет—усё вызначаецца яшчэ тады, калі фільм «існуе» толькі на паперы, г. зн. у сцэнарным рашэнні. І вось тут як ніколі патрэбен рэжысёр, які правільна «прачытаў бы» аўтарскую задуму, калі яна, вядома, змястоўная, жыццёвая.**

**На жаль, на «Беларусьфільме» і да гэтага часу сцэнарнае пытанне—самае вузкае месца. У партфелі студыі рэдка з'яўляюцца літаратурна-кінематаграфічныя творы, якія можна было б запусціць у вытворчасць. На практыцы нярэдка кіназдымкі пачынаюцца па недапрацаваных сцэнарыях. Яны «дацягваюцца» непасрэдна ў вытворчым працэсе. Адсюль і ўсе хібы. Такая практыка прыносіць вялікую шкоду нашаму мастацтву.**

**З другога боку, у нас не хапае рэжысёраў з дастатковым прафесійным і жыццёвым вопытам, якія маглі б стаць дарадчыкамі і саюзнікамі пісьменніка. Адсутнасць стабільнага кантакту паміж сцэнарыстамі і пастаноўшчыкамі адмоўна адбіваецца на якасці кінапрадукцыі, у канчатковым выніку, на аўтарытэце самой студыі. Ці не таму так часта мы ўзаемна перакладаем віну: рэжысёры на сцэнарыстаў, а тыя—на нас! Да таго ж студыя не здолела да гэтага часу замацаваць садружнасць з аўтарамі, якія плённа працавалі ў кіно—з А. Куляшовым, М. Лужаніным, А. Кучарам, А. Маўзонам, А. Макаёнкам, В. Быкавым. Гэта ж з іх дапамогай наша студыя стварыла нямала фільмаў, якія па праве ўвайшлі ў актыў усесаюзнай кінематаграфіі. Цяпер кола аўтараў чамусьці паменшылася да непазнавальнасці. Вядома, што за гэта перш за ўсё трэба вінаваціць рэдакцыйную калегію. Яна не прыняла адпаведных захадаў, каб палепшыць становішча на вопыце ранейшых творчых кантактаў з буйнейшымі беларускімі літаратарамі.**

**...У гісторыі беларускага кіно ёсць шчаслівая дата—25 снежня 1926 года, калі ў Мінску адбылася прэм'ера мастацкага фільма «Лясная быль». Першы вялікі беларускі кінатвор, зроблены выдатным рэжысёрам Ю. Тарычам паводле аповесці Міхася Чарота «Грышка-свінапас». Рамантычныя прыгоды беларускага хлопца, які пайшоў змагацца за ідэалы рэвалюцыі, за шчасце людзей, з вялікім майстэрствам былі ўвасоблены сродкамі кінематографа. «Лясная быль» сведчыла сабой нараджэнне беларускай мастацкай кінематаграфіі, паклала пачатак гераічнай тэме ў нацыянальным кіно, тэме, якая стала галоўнай, магістральнай і да гэтага часу працягвае заставацца адной з вядучых тэм у творчасці кінематаграфістаў.**

**Я з радасцю ўспамінаю «Лясную быль» яшчэ і таму, што гэта быў мой першы фільм, бо ў ім я здымаўся, як акцёр, а таксама выступіў у якасці асістэнта рэжысёра Ю. Тарыча.**

**Разам з тым кінастужка «Лясная быль» (і гэта характэрная з'ява)—бліскучы доказ плённай садружнасці пісьменніка і рэжысёра. Пазней, у трыццатыя і саракавыя гады многія пісьменнікі прыйдуць у кінематограф. Але пачыналася такое супрацоўніцтва з Міхася Чарота і Юрыя Тарыча.**

**Беларускае кінамастацтва расло і развівалася пад уплывам і з дапамогай кінематаграфістаў іншых рэспублік, іншых кінастудый. Рэвалюцыйны пафас такіх фільмаў, як «Чапаеў», «Дэпутат Балты-**




Пятрусь
БРОЎКА



# НОВЫЯ ВЕРШЫ

## МАЯ АНКЕТА

Не для вандроўнічаў
сусветных,
Для дому,
Дзе жыву здавён,
Я і без дадзеных анкетных
Наскрозь сучаснікам відзён.

Майго народа шчасце, мары,
Ці то бяда,
Ці гора з ім —
Усё напісана на твары
І ў сэрцы бачыцца маім.

Ці я сумую, ці шчаслівы,
Вы прачытаеце
У вачах,
Як кожны дзень жывецца
нівам,
Як дрэвам, кветкам у садах.

*Жнівень, 1972 г.*

## ПРАПОЛКА

Зямля ўсё множыць так
няспынна,
Што не злічыць раслін усіх.

Ёсць нам карысныя расліны,
А ёсць, што шкодзяць росту іх.

Вось, каб прывесці ўсё да
толку,
Каб плёну працы дачакаць,
Выходзяць людзі на праполку,
Прастор расткам карысным
даць.

Знішчае пустазелле кожны,
З даўнога ўжо закон такі,—
І так, як полюцца барозны,
І я праполваю радкі.

Каб словы, быццам жэмчуг,
сталі,
Каб чуўся іх напеўны звон,
Каб больш яны прывабна
ззялі,
Каб сэрцы браліся ў палон.

*Ліпень, 1972 г.*

## МАДОННА

Пра іх шмат гутарак гарачых.
Праехаўшы ж па свеце, сам
Я не адну мадонну бачыў
У аправе залацістых рам.

Адлюстраваных навечна
Майстрамі добрымі да нас,
Яны прыгожыя, бясспрэчна,
Але на свой і густ і час.

Іх шмат, цікавых болей-меней,
Хвалу ім варта аддаваць,
Ды прад адной, у задуменні,
Мне б так хацелася сказаць:

Няхай глядзіш ты пранікнёна
І хоць твой твар—няма бялей,
Я б не сказаў, што ты, мадонна,
За ўсіх сучасніц прыгажэй.

Між гулкіх плошчаў, між
ускраін,
Ці там, дзе поле расцвіло,
Часамі выблісне такая,
Якой і роўні не было!

*Ліпень 1972 г.*

## МОРА

Слова гучнае, як горы,
Ці як зоры — з дзён даўных,
Мора-веліч,
Песня-мора.
Мора колераў усіх.

Хвалі, хвалі ў сінім дыме,
Як шапочуць,
Як гудуць —
Коньмі чорнымі, сівымі,
Белагрывымі завуць.

Хто іх гоніць, хто ўладарыць,
Можа вецер-буй
Здалёк,—
То падымуцца да хмараў,
То рассцелюцца, як шоўк.

Ні канца ім, ані краю,
Ходзяць,
Рояць грамадой...
Я ж ніколі не пазнаю,
Развітаюся з якой?

*Верасень, 1972 г.*

## РУНЬ

Прыйшоў Кастрычнік.
Па шляхах
Як быццам золата растрос...
А рунь, а рунь —
Зялёны сцяг
На сіні восеньскіх нябёс.

Штодня сцюдзёней.
Ды дарма.
І хоць маросіць з кожным
днём,
Ды неўзабаве ўжо зіма
Прыкрые пульхным палатном.

Вятры
З ёй будуць размаўляць,
Бары, дубровы і гаі...
А руні,
Руні спачываць,
Пакуль не ўзбудзяць ручаі.

Пакуль,
Пад птушак галасы,
Не набярэцца сіл такіх,
Што скрозь зашэпчуць каласы...
Ах, што за пах, за песні ў іх!

*Верасень, 1972 г.*

## СТЫХІЯ

Дзе тая моц,
Цябе што зможа,
Сама ты моц
І разам смерць.
Ты і страшная
І прыгожа,
Як на адну красу глядзець.

Ты з чорных хмар.
Твае убранні,
Што ноч —
Па самы небакрай.
А ў міг —
Маланак бляск і ззянне,
Што ажно вочы закрывай!

Ты больш красы
Бяды прыносіш,
Адкуль такі нястрымны гнеў?
Бывае —
Гай у хвілю скосіш,
Хаціну ўздымеш
Вышай дрэў.

Не, ты прыгожай
Быць не можаш,
Ты злосна выеш,
Не пяеш,
То пакладзеш дадолу збожжа,
То сена ў лузе
Растрасеш...

Ну, што табе
Людскія слёзы,
Калі шаленства твой чарод,
Ты спадарожніка ў дарозе
Стралой —
Знішчаеш навылёт!

Плывуць у космасе
Героі,
Хоць шлях нялёгкі ў барацьбе.
А я ўсё думаю —
Пра тое,
Калі мы дойдзем да цябе.

Каб ты магла
На ўсім бязмежжы —
Не разбураць,
А будаваць,
Калі пасілім, як належыць,
Цябе, стыхія, ўтаймаваць!

*Ліпень, 1972 г.*

## ЧОРНЫ ДЗЕНЬ

Не забыцца
Пра былое,
Пра няшчасны лёс здавён —
Добра помніцца такое,
Як суровасць чорных дзён.

Жыць нялёгка давялося —
Ад бяды,
Ды на бяду.
Ды вядома, як жылося,
З лебяды ды на ваду.

А старэлі мы з гадамі,
Надыходзіў
Грозны час,
Чорны дзень кружыў над намі,
Чорны дзень палохаў нас.

Варта толькі
Сілу страціць,
Станеш лішнім ты для ўсіх—
Паглядаюць коса ў хаце,
А ратункаў ніякіх.

Чорны дзень,
Як толькі ўстанеш,
І куды ты ні пакроч —
Чорны дзень, куды ні глянеш,
Чорны, чорны аж па ноч!

Чорны дзень —
Няма збавення,
Чорны, чорны да жуды,
Чорны, чорны — без адзення,
Чорны, чорны — без яды.

Чорны дзень,
Каму ты мілы,
Доля гэткая была...
Чорны дзень аж да магілы,
І ў магіле —
Без святла.

І хоць радасна сягоння,
Што навек пазбыты жах,
Сумна мне,
Калі прыпомню,
Як я жыў пры чорных днях.

*Жнівень, 1972 г.*

●

Я вельмі сонца ўсход люблю,
Чаму ж трывожны
Сёння ўсход —
Відаць, спазнаўшы ўсю зямлю,
Нямала ўбачыла нягод.

І мо таму, шляхі свае,
Прайшоўшы там,
Дзе гром, дзе бой,
У нас чырвоным устае,
Нібы аблітае крывёй.

*Верасень, 1972 г.*

## МУЗЫКА

Ці чулі вы, як рана-рана,
Калі раса па ўсёй зямлі,
Узлёт музыкі нясціханай.
Ну, як сапраўдныя арганы,
Так граюць гай, сады, палі...

Ах, як нам блізка і знаёма
З гадоў дзіцячых, маладых —
Вясновых рэчак дзіўны гоман,
Дажджоў цымбалы, бубны
грому,
Жалейкі птушак паміж іх.

А чулі вы, як восень просіць
Нас на канцэрт на сто ладоў,
А можа чуць вам давялося,
Як грае ноч на скрыпках сосен
Смычкамі восеньскіх вятроў?

І мне, прызнацца, з кожным
годам
Зямлі гучанне ўсё мілей,
І ў дзень, і ў ноч, ажно да
ўсходу
Я пазнаваю, як прырода
Вучыла музыцы людзей.

*Верасень, 1972 г.*

---

кі» і іншыя, натхняў майстроў беларускага кіно. «Першы ўзвод», «11 ліпеня», «Балтыйцы», «Атэль Савой», «Вогненныя гады»...—гэтымі і іншымі творамі беларуская кінематаграфія крок за крокам ішла да новых вяршынь, уносіла годны ўклад у развіццё шматнацыянальнага савецкага кінамастацтва.

Вядома, што гэты працэс не праходзіў гладка. Былі няўдачы, былі страты, пралікі. Але, відаць, такія карціны, як «Двойчы народжаны», «Дачка Радзімы», «Шукальнікі шчасця», «Маё каханне» засталіся ў памяці даваеннага гледача.

Шмат цікавых фільмаў было створана і ў пасляваенныя гады. Гэта «Канстанцін Заслонаў», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Чырвонае лісце», «Міколка-паравоз», а яшчэ пазней—«Масква—Генуя», «Праз могілкі», «Альпійская балада», «Іван Макаравіч»... Варта падкрэсліць, што большасць з іх пастаўлены па сцэнарыях, напісаных беларускімі літаратарамі.

За сваё доўгае жыццё я многа працаваў з беларускімі пісьменнікамі: Анатоль Вольны, Рыгор Кобец, Алесь Кучар, Аркадзь Куляшоў, Максім Лужанін... У кожнага свой творчы стыль, свая манера пісьма, свой падыход да вырашэння тэмы. Але я, як рэжысёр, знаходзіў з імі агульную мову. Супрацоўніцтва заўсёды прыносіла мне задавальненне, нават тады, калі мы спрачаліся, дыскутавалі, вялі настойлівыя, нярэдка складаныя пошукі. Я і дасюль прытрымліваюся думкі, што таленавіты пісьменнік — гэта і таленавіты сцэнарыст. Яго твор заўжды можа стаць добрай асновай кінафільма. Асвоіць спецыфіку кіно пісьменнік здолее, вядома, з добразычлівай дапамогай майстроў экрана.

Хочацца мне паставіць фільм па прозе Івана Мележа. Матэрыял для экранізацыі вельмі цікавы, багаты. Справа ў тым, як лепш, змястоўней рэалізаваць пісьменніцкую ідэю, з тысяч старонак адабраць «кінематаграфічнае зерне»...

Нам, кінематаграфістам, вялікую дапамогу аказвае Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, нацэльвае на стварэнне значных у ідэйных і мастацкіх адносінах твораў кінамастацтва. На XXVII з'ездзе КПБ П. М. Машэраў справядліва крытыкаваў «Беларусьфільм». Наш калектыў зразумеў, што і сапраўды студыя працуе ніжэй сваіх магчымасцей і тых патрабаванняў, якія ставіць перад намі час. Мы па-творчы мабілізаваліся, каб рашуча выправіць становішча. Зразумела, адразу ўсе недахопы не пераадолець, але імкненне выканаць задачы, пастаўленыя партыяй, ёсць, ёсць пачуццё адказнасці персанальна ў кожнага з нас.

У прыватнасці, усе мы даўно чакаем эпічнага, маштабнага фільма, які праўдзіва паказаў бы размах патрыятычнай барацьбы беларускага народа ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Трэба спадзявацца, што фільм «Полымя», над якім працуе цяпер вялікі калектыў нашых кінематаграфістаў, будзе такім творам. На экране будзе адлюстраваны ўсенародны подзвіг. Хацелася б, каб ён стаў этапным у гісторыі беларускага кінамастацтва.

Адказваць на клопат партыі трэба сапраўднымі, партыйнымі і народнымі творамі экраннага мастацтва. Такі наш дэвіз.

50 год утварэння СССР

# ПА ПАРОЛЮ ДРУЖБЫ

У ТУЮ ПАМЯТНУЮ ноч 26 красавіка 1966 года на сейсмічнай станцыі «Ташкент» дзяжурыў Іргаш Хаітаў. Ён рабіў сваю звычайную справу. Спусціўся на хвіліну ў падзямелле, дзе, прыпаўшы да масіўных фундаментаў, слухалі зямлю прыборы. Усё ў парадку. Затрымлівацца доўга нельга. Там, наверсе, праз кожныя 60 секунд прарэзліва звініць званок — не марудзь, памятай, ты на пасту! Падняўшыся ў пакой і яшчэ раз праверыўшы паказчыкі прыбораў, Іргаш падышоў да акна.

Світала.

Раптам з-пад зямлі данёсся глухі гул. Задрыжэла падлога, сцены. Завыў, быццам сірэна, рэгістрыр. Пёрысамапісцы электраграфічнага асцылографа ліхаманкава мітусіліся па папяровай стужцы, крэслячы аўтографы вялікай бяды, што абрушылася на горад. Іргаш кінуўся да тэлетайпа. «Я — Ташкент-сейсмас. Я — Ташкент-сейсмас. Масква, Масква. Слухайце даныя. Масква, вы чуеце мяне?»

І Масква пачула. Пачула ўся краіна. Хвалі ташкенцкага землетрасення прайшлі праз сэрца кожнага савецкага чалавека.

...Іх многа ў Ташкенце — цікаўных замежных турыстаў. Абвешаныя фотаапаратамі і кінакамерамі, яны з раніцы да вечара раз'язджаюць па горадзе, і ўсё здымаюць, здымаюць. Яны ведалі, што ў горадзе было вялікае землетрасенне. Некаторых і прывяло сюды жаданне ўбачыць і зняць на плёнку разбурэнні. Але што гэта? Ніякіх руін няма. Замест іх у аб'ектывы трапляюць прыгожыя , шматпавярховыя дамы.

— Як жа так,— здзіўляюцца госці. — Хіба ж можна за кароткі час так многа пабудаваць?

І гіды расказваюць, як горад паўставаў з руін. Як на дапамогу Ташкенту прыйшлі Масква, Ленінград, Кішынёў, Рыга — уся краіна. Як па паролю дружбы ішлі ў сталіцу Узбекістана саставы з металам Урала, з механізмамі з Масквы, беларускімі МАЗамі, шклом з Данбаса, лесам і стандартнымі дамамі з Сібіры. Ды хіба ж гэта ўсё! І турыстаў вязуць у жылы масіў Чыланзар. Гэты раён горада мае яшчэ адну назву — «Дружба народаў». І сапраўды, тут асабліва наглядна відаць вынікі дружбы народаў Краіны Саветаў, іх бескарыслівая дапамога братам, якія трапілі ў бяду. Чыланзар—падарунак ташкентцам ад усяго савецкага народа. Падарунак, які не мае цаны. Чыланзар — горад у горадзе. Са сваімі паркамі, скверамі, шырокімі вуліцамі, кінатэатрамі, прасторнымі магазінамі, утульнымі кафэ. Тут усё прадугледжана, каб чалавек адчуваў сябе зручна. Каля трохсот тысяч ташкентцаў жывуць у сейсмічнаўстойлівых дамах, зробленых па апошняму слову будаўнічай тэхнікі, з сучаснай планіроўкай.

Ёсць у гэтым своеасаблівым горадзе квартал, які вельмі падабаецца ўзбекам. Ён носіць назву «Беларускі». Яго ўзводзілі нашы землякі. Пра іх пісалі газеты, расказвалі радыё-і тэлежурналісты. Пераймаць вопыт беларусаў прыходзілі будаўнікі іншых рэспублік. І хлопцы і дзяўчаты з-пад Брэста і Магілёва, з Гомеля і Віцебска, Мінска і Салігорска не вельмі гаваркія, не прывыклыя да інтэрв'ю, вялі гасцей на свае аб'екты і паказвалі.

— Глядзіце, калі ласка, глядзіце, нічога асаблівага няма.

І сапраўды, асаблівых знаходак, здаецца, не было. Хіба толькі працу на аб'ектах арганізавалі так, што механізмы не прастойвалі, кожны чалавек быў на месцы, кожны дасканала ведаў справу, кожны рабіў столькі, колькі мог. Ну, а калі трэба, дык і больш.

— Ну, што ж, — адказваў бульдазерыст Сяргей Ізергін з Наваполацка, ці мінскі муляр Васіль Прымачоў, — не лынды ж біць сюды прыехалі, а дапамагаць людзям.

У час землетрасення пацярпеў рамонтны завод у прыгарадзе Ташкента — Кулюку. Кіраўніцтва завода звярнулася да беларусаў па дапамогу. Параіўшыся, будаўнікі вырашылі паслаць туды брыгаду рамонтнікаў. Тыя, хто застаўся, далі слова працаваць так, каб адсутнасць таварышаў не адбілася на рабоце.

І не падвялі. Хлопцы працавалі не шкадуючы сіл. Узвялі новы будынак канторы, цеплатрасу. Мала таго. Завод атрымаў тэрміновыя заказы Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі і В'етнама. Патрэбна была ўпакоўка. І Міша Законнікаў, Сяргей Ізергін, Федзя Летчанка ўспомнілі сваю другую спецыяльнасць. Пачалі вечарамі цяслярыць.

— Гарачыя дзянькі былі. Сонца смаліла — градусаў 40—45. Адно выратаванне — зялёны гай. І... работа.

У нядзелю таксама працавалі. Дапамагалі рамантаваць кватэры рабочым. Гэта—па ўласнай ініцыятыве.

Ну і дзякавалі ж узбекі беларускім хлопцам! Частавалі шашлыкамі, гатавалі для іх такі плоў, што, здаецца, сам алах пальчыкі аблізаў бы.

Дамоў — у гарадок «Белбуда» вярнуліся з вымпелам і Ганаровай граматай парткома і адміністрацыі завода.

Кароткі адпачынак і зноў работа, работа... Працавітасцю славіліся беларускія будаўнікі. Славіліся і тым, што почырк свой мелі. Пра гэты почырк я чуў і ад намесніка старшыні Ташкенцкага гарвыканкома Георгія Мінаевіча Саркісава і ад сваіх калег — узбекскіх журналістаў, і ад жыхароў, якія жывуць у дамах, пабудаваных хлопцамі і дзяўчатамі з берагоў Нёмана і Сожа, Дняпра і Буга. Адбітак яго ва ўсім. Па-першае — у фарбах. Зеляніна прыдняпроўскіх лугоў і блакіт нарачанскіх азёр упляліся ў паяскі арнаментаў. якія вянчаюць дамы. Колер спелага жыта, васількоў, кіпень майскага саду засталіся на шчытах балконаў-лоджыяў. Прыступкі лесвіцмаршаў быццам пакрытыя зялёнай дарожкай. А самі кватэры? Лепшай ацэнкі, чым даў шафёр Ташкенцкай аўтабазы Уруп Атаджанавіч Ісчанаў, здаецца. і нельга чакаць.

— Самае галоўнае — усё зроблена ад душы, трывала. Перадайце наша шчырае ўзбекскае «рахмат» беларускім будаўнікам. Рукі ў іх залатыя.

І сапраўды. чым не залатыя рукі ў мінскага мазаічніка Мікалая Паўлавіча Чабана. Мазолістыя, парэпаныя ад раствору. Як спрытна ўкладвалі яны абліцоўную плітку! Дарэчы, надаваць тынкоўцы дэкаратыўны вобраз — справа тонкая, патрабуе асаблівага ўмення, таленту. Мікалая Паўлавіча запрашалі да сябе і туляі і куйбышаўцы, узбекі і масквічы. І ён ахвотна ім перадаваў свой вопыт. Няхай

---

# АТРАД НАЗЫВАЎСЯ «ІСКРА»

*АБ ЧЫМ РАСКАЗВАЎ ПАРТЫЗАНСКІ ЧАСОПІС*

**Р. ЧАРНАГЛАЗАВА,**
загадчыца аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны

СЯРОД шматлікіх экспанатаў, якія захоўваюцца ў Беларускім музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны значнае месца займаюць партызанскія часопісы. Адзін з іх прыцягвае асаблівую ўвагу. На тытульным лісце надпіс: «Літаратурна мастацкі часопіс «Іскра» партызанскага атрада «Іскра» брыгады «Разгром». Кастрычнік 1943 года».

Роўны, выразны почырк. Замалёўкі алоўкам, артыкулы, вершы, песні, частушкі. Усе яны прысвечаны баявому шляху атрада, яго людзям, іх справам.

«Іскра». Так назвалі свой атрад першыя яго партызаны — рускі У. Дэрабін, беларус Б. Арцімовіч, адыгейцы Каспот Псепітаў і Абдулах Хацькоў, азербайджанец М. Мамедаў і іншыя. У лесе каля вёскі Белічаны Бярэзінскага раёна ў красавіку 1942 года далі яны клятву на вернасць Радзіме.

Камандзірам выбралі Уладзіміра Паўлавіча Дэрабіна. У 1941 годзе, разам з іншымі салдатамі і афіцэрамі ён упарта прабіваўся з акружэння на ўсход. А потым, калі прабіцца праз фронт не ўдалося, вырашыў змагацца з фашыстамі ў іх тыле. Дэрабін увесь аддаецца справе арганізацыі атрада. Падбіраў надзейных людзей, збіраў зброю.

5 ліпеня 1942 года партызаны атрада правялі першую баявую аперацыю на шашы Мінск — Магілёў. Зрабілі засаду. Абстралялі штабную легкавую машыну. Забілі трох гітлераўскіх афіцэраў і шафёра. У той жа дзень падарвалі і грузавую машыну. Забілі 30 фашысцкіх салдат. Падабраўшы штабныя дакументы і трафеі, партызаны вярнуліся ў лагер. Услед за першай удалай аперацыяй пайшлі другая, трэцяя.. Рос атрад. Усё больш патрабавалася зброі. У штабе планаваліся новыя баявыя аперацыі.

У сакавіку 1943 года партызаны выявілі ў лесе паміж вёскамі Раваніцкая Слабада Чэрвеньскага раёна і Поцічава Смалявіцкага раёна падбіты ў ліпені 1941 года ў няроўным бai з гітлераўцамі савецкі танк. 45-міліметровая гармата аказалася спраўнай. У камандзіра атрада нарадзілася думка зняць з танка гэту гармату, адрамантаваць і ўзяць на ўзбраенне атрада.

Партызаны з дапамогай жыхароў вёскі Слабада знялі з танка гармату і прывезлі яе ў калгасную кузню. Ствол гарматы быў устаноўлены на металічны каркас з восcю, зробленай у кузні. Колы выкарысталі ад калгаснай сеялкі. Жыхары вёскі дапамаглі знайсці дэталі, якіх не хапала. Зімой гармату здымалі з колаў і ўстанаўлівалі на сані. З гэтай гарматай партызаны правялі шэраг паспяховых баявых аперацый. Так 18 красавіка 1943 года ў баі ля вёскі Пятровічы разгромілі буйны карны атрад і захапілі 13 падвод з каштоўным грузам. У красавіку 1944 года партызаны выйшлі на аперацыю па знішчэнні варожага эшалона. З гэтай гарматы партызаны прамой наводкай абстралялі паравоз, а потым захапілі эшалон. Забраўшы трафеі, спалілі 50 вагонаў.

Пры падтрымцы сваёй «артылерыі» партызаны разграмілі 5 гарнізонаў, знішчылі 2 эшалоны ворага. З гэтай гарматай партызанскі атрад «Іскра» ўдзельнічаў у парадзе партызан у Мінску 16 ліпеня 1944 г. Зараз яна — адна з каштоўнейшых рэліквій музея. Часта каля яе збіраюцца былыя партызаны атрада «Іскра» (або, як іх любоўна называлі, Валодзькаўцы), успамінаюць мінулае, сваіх баявых сяброў...

Адзін з першых партызан атрада — адыгеец Абдулах Ібрагімавіч Хацькоў. Вайна застала яго ў арміі. З баямі яго полк адыходзіў на Барысаў, у раёне возера Палік трапіў у акружэнне. З групай байцоў Абдулах Хацькоў пераправіўся цераз раку Бярэзіну, прабіраўся на ўсход. Стомленыя і галодныя спыніліся яны ў вёсцы Пупілічы Халопеніцкага раёна. Тут іх прынялі як родных. Але ўночы наляцелі гітлераўцы. Зброю здагадлівая гаспадыня паспела схаваць. Хацькова з таварышамі гітлераўцы адправілі ў лагер для ваеннапалонных у Лепель. Праз некалькі дзён яны ўцяклі. І зноў прыйшлі ў вёску Пупілічы. Адпачылі, забралі сваю зброю і пайшлі ў лес. Там і сустрэліся з Дэрабіным. Разам арганізоўвалі партызанскі атрад «Іскру». Хацькоў быў камандзірам роты. За баявыя подзвігі ён узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Радзімай для яго стала беларуская зямля. Цяпер ён жыве і працуе ў Мінску.



Уладзімір Паўлавіч Дэрабін. Такі ён быў у грозным сорак трэцім.

У новай экспазіцыі музея будуць паказаны фотапартрэты многіх партызан атрада «Іскра», у радах якога змагаліся прадстаўнікі 15 нацыянальнасцей. Сярод іх — фотапартрэт сібірака Міхаіла Малікава. Любілі яго за адвагу — са сваім кулямётам Малікаў заўсёды заставаўся прыкрываць баявых сяброў; за тое, што ён быў незаменны запявала, танцор, весялун, выдатны расказчык. У атрадзе Міхаіл уступіў у партыю. На партыйным сходзе сказаў: «Больш як 80 фашыстаў палягло ад агню майго кулямёта, але я гэтым не задаволены. Я буду спакойны толькі тады, ка-



З партызанскага лесу славутая гармата перавандравала ў Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Каля яе штогод збіраюцца былыя партызаны—Валодзькаўцы.

Я. РАМАНОВІЧ

# ДЗЯДЗЬКА КОЛАС УСМІХАЕЦЦА...

З УСПАМІНАЎ

З ДРАМАТУРГІЯЙ Коласа мне давялося пазнаёміцца значна пазней, чым з яго паэзіяй і прозай. Не адразу стала вядома, што Якуб Колас і Тарас Гушча гэта адна і тая ж асоба — настаўнік Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. У Белпедтэхнікуме мой бацька служыў загадчыкам гаспадаркі, і Колас, які выкладаў у тэхнікуме методыку беларускай мовы, часта заходзіў да яго па справах. Мы жылі на двары тэхнікума ў двухпавярховым зялёным доме.

Неяк вечарам я вярнуўся дадому з тэатра (БДТ-1), дзе працаваў акцёрам, і ўбачыў Коласа. Разам з маім бацькам ён сядзеў за сталом і піў чай. Бацька пазнаёміў мяне з Канстанцінам Міхайлавічам, якога я, праўда, і раней добра ведаў: Колас часта выступаў у клубе тэхнікума, які быў у нас на двары ў даўгім цагляным будынку.

Я з радасцю паціснуў руку дарагога госця, падсеў да стала і наліў сабе шклянку чаю. Потым пацягнуўся па хлеб і сала. Колас звярнуў на гэта ўвагу.

— Відаць, і вы любіце сала? Ваша маці добра яго соліць, я ўжо пакаштаваў,—сказаў ён і гарэзліва ўсміхнуўся.

— Цяпер яго хапае,—падхапіў бацька.—А некалі было і так: пакладзе мужык тоненькі скрылік сала на лусту хлеба, есць патрох хлеб, усё прыгаворвае: «Дабярыся і да цябе, пачакай, ужо ж дабярыся!».

Колас мякка засмяяўся, яго мудрыя вочы бывалага чалавека свяціліся ясным святлом, глыбокай душэўнай добразычлівасцю.

Пазней, калі ўжо былі надрукаваны і сталі добра вядомымі паэмы Коласа «Новая зямля», «Сымон-музыка», а бацька часта дэкламаваў дома любімыя ўрыўкі з «Новай зямлі», у мяне ўзнікла думка інсцэніраваць «Сымона-музыку», дадаўшы да паэмы некаторыя лірычныя вершы Коласа. Я меркаваў, што з гэтага можа атрымацца музычная драма, спектакль-канцэрт. Колас ухваліў сцэнарый і маю прапанову перадаць яго Аляксею Еўлампіевічу Туранкову для напісання музыкі. Аднак рэжысура тэатра палічыла паэму мала сцэнічнай для драматычнага тэатра, а больш вартай для опернага лібрэта.

Але напісаць лібрэта для нашага опернага тэатра мне давялося крыху пазней і не па паэме «Сымон-музыка», а па аповесці Коласа «Дрыгва»—так запрапанаваў наш оперны тэатр. Разам з маладым яшчэ на той час кампазітарам Анатолем Васільевічам Багатыровым і рэжысёрам Маскоўскага тэатра імя Рэвалюцыі Ільёй Юльевічам Шляпянавым, які быў запрошаны на пастаноўку беларускай оперы ў наш оперны тэатр, мы абмеркавалі літаратурны план лібрэта. Узгадніць папярэдні яго сцэнарый я паехаў да Якуба Коласа. Час быў летні, і дзядзька Колас разам з сям'ёй жыў на вёсцы.

**Я выбраўся не адзін, са мною за кампанію паехалі мае добрыя сябры Ірына Ждановіч і Барыс Платонаў.**

**Вёска, у якой летаваў Колас, стаяла на высокім, жоўтым беразе Свіслачы, каля маладога грыбнога лесу. З высокага пагорку лашчыў вока чароўны далягляд, аблямаваны ўводдалі сінім паскам лесу. На тым беразе рэчкі каласілася шырокае поле спелага ад сонечнага загару жыта.**

**Адным словам, дзядзька Якуб умеў выбраць мясцінку на вёсцы, аб якой не раз пісаў:**

**Мой родны, кут, як ты мне мілы...**

**У той жа вёсцы жыла тады і Вольга Галіна, артыстка нашага тэатра. Жонка Коласа параіла ёй зняць дачу разам з імі, што Галіна і зрабіла. Пазней яна заўсёды з прыемнасцю ўспамінала гэтае лета, якое правяла побач з Міцкевічамі разам са сваім мужам Васілём Пампеевічам — братам Ларысы Пампееўны Александроўскай.**

Ужо добра звечарэла, калі мы ўехалі на шырокую вясковую вуліцу. Галіна, відаць чакала нас. Яна выбегла з бакавой вулічкі і памахала хусткай.

— Гэ-гэй! Альдона!—закрычаў Платонаў, узняўшы ўгару рукі.

...У спектаклі «Вір» Галіна цудоўна іграла маладую дзяўчыну Альдону, а Платонаў быў яе партнёрам у вобразе Мінскага князя Юрыя. Яны абое захаплялі нас рамантычным пафасам сваіх герояў.

Галіна падбегла да нас і закруцілася з Ірынай у сяброўскім прывітанні. Самавіта і насцярожана падышоў і Васіль Пампеевіч, паздароўкаўся, паказаў у бок сваёй хаты і прыветна запрасіў у госці. Мы разлічыліся з рамізнікам і пайшлі вясковымі сцяжынкамі міма агародаў на край сяла.

Раніцай, калі мы рушылі з нажамі і кошыкамі па грыбы, то першы, каго напаткалі ў лесе, быў Якуб Колас. Ён нёс поўны кошык грыбоў. Убачыўшы нас, ветліва зняў саламяны капялюш:

— Куды гэта вы?

— У лес, па грыбы,—адгукнуліся мы нястройным хорам.

— Хто ж гэта ходзіць па грыбы так позна?! Яны ж усе ў маім кошыку.

Мы кінуліся іх аглядаць.

— Прыгажуны якія!—захапіўся Платонаў.—Чыстыя!..

— Нячыстых я не бяру,—самазадаволена ўміхнуўся Колас.

— Ай, дзядзька Колас, скваплы які! Няўжо нам ніводнага баравіка не пакінулі?—усклікнула Галіна.

— Лес багаты, а я не скнара, хопіць і вам. Але трэба ведаць, дзе яны растуць. Баравік любіць ціхія закуткі. Пачакайце крыху, я занясу жонцы грыбы і пойдзем разам, бо акрамя сыраежак нічога не знойдзеце...

Ішлі строем, як разведчыкі, на невялікай адлегласці адзін ад аднаго. Хмяліў водар сасновай смалы, непаўторны, моцны, ні з чым не параўнаны.

Ступаючы па мяккіх купінах моху, я раптам трапіў на вялікага чарнявага хітруна, які схаваўся пад бярозавым лісцем.

— Баравік, баравік!—закрычаў не сваім голасам.

Да мяне збегліся грыбнікі, каб упэўніцца, што не маню. Пакуль яны аглядалі мой трафей, Колас разгроб мох і сабраў яшчэ восем, што хаваліся пад ім. На маё здзіўлене і разгубленасць ён павучальна сказаў:

— Баравікі растуць сем'ямі, трэба ведаць, знайшоў аднаго, шукай побач яго сваякоў...

□

...На небе, як на палотнах Куінджы, блішчэў мядзяны таз поўнага месяцу, ледзь свяціліся цьмяныя зоркі, было ціха і прыгожа. Мы сядзелі на верандзе каля неспакойнага святла патрывожанай матылямі газоўкі і дымілі пахучым самасадам, які адганяў камароў. Я расказаў Коласу задуму лібрэта. Яму не вельмі падабалася тое, што героі яго «Дрыгвы» будуць крыху іншыя, чым у аповесці. Я пачаў даводзіць, што лібрэта оперы гэта спецыфічны жанр і што так рабілі ўсе лібрэтысты, дабіваючыся опернай сцэнічнасці твораў Пушкіна, Лермантава, Шолахава.

**— Але навошта ж мяняць прозвішчы герояў, калі іх ведае чытач? Чаму, напрыклад, не Талаш, а дзед Тарас?**

**— Бачыце, Канстанцін Міхайлавіч, з вашым дзедам Талашом адбудуцца такія змены, што яму неабходна іншае імя, каб не было непаразуменняў у чытача. Драматызуючы вобраз кіраўніка сельскіх партызан, я зрабіў яго бацькам Андрэя, які загіне ў барацьбе з акупантамі. Гэта вялікая трагедыя — страціць любімае дзіця, але яна не заслоніць гераічнага эпасу барацьбы з ворагам, наадварот, павялічыць яе запал. Хор дзяцей у першай дзеі, якія просяць дзеда расказаць ім казку, пакажа яго любоў да малых, добрае сэрца. Апроч таго, хочацца паказаць, як партыя накіроўвала стыхійны рух сялян у арганізаваны ваенны адпор ворагу. Улічваючы законы опернай драматургіі, я, вядома, не магу механічна перанесці падзеі аповесці і характары яе герояў у новы жанр — оперу. Неабходна будаваць новую сцэнічную кампазіцыю. Вось чаму вобраз камуніста Кузьміча таксама новы; ён, праўда, увабраў у сябе некаторыя рысы Нявіднага і Букрэя. У вашых вершах я знайшоў гатовую арыю для Кузьміча «Люблю я прыволле вясновых палёў...» У вобразе Андрэя гледачы ўбачаць многае ад Мартына Рыля і Панаса. Усе астатнія — як Аўгіння, яе муж Бусыга — захоўваюць і свае імёны, і характары, вядома, у пэўным драматургічным развіцці. Вельмі цікавай фігурай можа аказацца бацька Аўгінні, Саўка. Гэта вельмі супярэчлівы характар, няшчасны чалавек, бедалага: ён топіць у п'яным разгуле і балючай весялосці сваё бядацтва. Слабавольны і няпэўны, ён ідзе на здраду, але, усвядоміўшы, што гэта не на карысць яго адзінай любімай дачкі Аўгінні, ахвяруе сабой, але дапамагае партызанам разбіць акупантаў. Вялікае значэнне будуць мець хоры. Праз іх мы пакажам народ, які стаў на абарону сваёй Радзімы і дапамагае Чырвонай Арміі граміць пілсудчыкаў.**

**— Ну, добра, рабіце як лепш, вы ж тэатралы. На рэпетыцыі я прыйду, хоць у музыцы разбіраюся слаба...**

□

З вялікай патэльняй смажаных у смятане баравікоў і міскай гарачай бульбы да нас падышлі Марыя Дзмітраўна, Галіна, Ірына Ждановіч. Паклікалі Александроўскага і Платонава.

— Напісалі б нам п'есу, дзядзька Якуб,—звярнуўся да Коласа Платонаў.

— А, братка, дзе ты бачыў, чыхнуць няма калі. Тут такое хараство, на вершы цягне, на лірыку... П'еса—гэта складаная матэматыка, канфлікты, патрэбен другі настрой, ваяўнічы, ды і які з мяне драматург.

— Другому тэатру, віцяблянам, вы ж напісалі—і «Вайна вайне», і «У пушчах Палесся»,—упікнула Ірына Ждановіч.

— Дык жа ведаеце, як яны мяне збатрачылі! Дорскі і рэжысёр

---

# КРАЙ-ДРУГ УЗБЕКІСТАН

ЛАСКАВЫМ КРАЕМ, краем-другам называў Якуб Колас Узбекістан, які даў яму прытулак у цяжкія гады фашысцкай акупацыі Беларусі. Больш двух гадоў пражыў паэт у Ташкенце, напісаў тут шмат вершаў, фельетонаў, памфлетаў, публіцыстычных артыкулаў, прасякнутых нянавісцю да ворага, нязломнай верай у хуткую перамогу над ім. Гэтыя вершы і артыкулы, надрукаваныя ў лістоўках, закідваліся ў варожы тыл, натхнялі беларускіх мсціўцаў на гераічныя подзвігі.

Зараз на доме па Пушкінскай вуліцы, дзе спыніўся тады паэт, вісіць мемарыяльная дошка на трох мовах — узбекскай, беларускай і рускай: «У гэтым доме ў 1941—1943 гг. жыў і працаваў класік беларускай літаратуры, народны паэт БССР Якуб Колас (Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч)».

Недалёка ад дома пачынаецца маляўнічая зялёная вуліца, якая зараз носіць імя Якуба Коласа (былая Асакінская). Там, дзе яе перасякае рэчка Салар, раскінуўся прыгожы парк імя Тэльмана, у якім любіў адпачываць паэт разам з жонкай, Марыяй Дзмітрыеўнай. Гэта ташкенцкім садам і вуліцам прысвечаны шчырыя радкі Коласа:

**Успомню горад шумны, звонкі,**
**І паркі, і сады,**
**Салар, узор арыкаў тонкі,**
**І топаляў рады.**
**Куточкі ўспомню зацішныя**
**І велічны Чымган,**
**І па табе душа заные,**
**Край-друг Узбекістан...**

У Ташкенце Якуб Колас сустракаўся з пісьменнікамі, вучонымі, грамадскімі дзеячамі, рабочымі, калгаснікамі. Узбекскія пісьменнікі Мірмухсін Мірсаідаў, Хамід Гулям, Уйгун, Зульфія цёпла адгукаюцца аб беларускім песняру, ганарацца сваім знаёмствам з ім. «Імя вялікага беларускага паэта Якуба Коласа я ведаў яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, у трыццатых гадах. Я чытаў яго вершы ў перакладах на рускую мову, — успамінае М. Мірсаідаў. — Сустрэўся я з дарагім Канстанцінам Міхайлавічам пазней.

У суровыя дні вайны ён жыў у Ташкенце, і я часта бачыў яго ў Саюзе пісьменнікаў. Тут мяне і пазнаёмілі з ім.

Якуб Колас заўсёды ўдзельнічаў у творчых дыскусіях, даваў многа парад маладым пісьменнікам. Ён вельмі блізка пазнаёміўся з Узбекістанам: пабываў на бавоўнавых палях, вывучаў літаратуру і фальклор узбекскага народа. Якуб Колас не раз быў дарагім госцем на вяселлях узбекаў. Ён напісаў шэраг вершаў пра Узбекістан, я іх слухаў ад аўтара на беларускай мове.

Як малады пісьменнік, я часта звяртаўся да Канстанціна Міхайлавіча па розных пытаннях літаратурнага майстэрства. Ён падказваў мне шмат цікавага і каштоўнага.

Для узбекскіх пісьменнікаў Якуб Колас—дарагі і мудры настаўнік».

У 1942 годзе, да 60-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, быў выдадзены на узбекскай мове яго зборнік «Выбраныя вершы» пад рэдакцыяй Хаміда Алімджана.

Віншаванне юбіляра было ўрачыстым. 3 лістапада 1942 года ў Доме Чырвонай Арміі сабраліся пісьменнікі, вучоныя, дзеячы мастацтваў Масквы, Ленінграда, Узбекістана, Беларусі і Украіны. Віншавальныя тэлеграмы Якубу Коласу паступілі ад Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі, ад Саюзаў пісьменнікаў усіх рэспублік, ад беларускіх партызан, рабочых эвакуіраваных прадпрыемстваў БССР.

З дакладам аб жыцці і творчай дзейнасці паэта выступіў Кандрат Крапіва, які спецыяльна прыехаў у Ташкент.

На старонках рэспубліканскіх газет «Правда Востока», «Кзыл Узбекістон», у часопісах з'явіліся артыкулы, прысвечаныя творчай і грамадскай дзейнасці Якуба Коласа, вершы паэта ў перакладзе на рускую і узбекскую мовы.

9 красавіка 1943 года Якуб Колас прыняў удзел у сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі Ташкенцкага педагагічнага інстытута. «Педагагічны інстытут наладзіў сход, прысвечаны спатканню са мною,—пісаў Колас пасля сустрэчы.—Ініцыятарам гэтага вечара быў наш беларускі хлопец Сцяпан Ліхадзіеўскі»... А 27 чэрвеня Якуб Колас выступаў на аб'яднаным пасяджэнні Акадэміі навук БССР, Саюза савецкіх пісьменнікаў Узбекістана і філалагічнага факультэта універсітэта, прысвечаным першай гадавіне з дня смерці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Якуб Колас часта заходзіў у рэдакцыю газеты «Фрунзевец» Туркестанскай ваеннай акругі. Супрацоўнікі заўсёды цёпла яго сустракалі. Тут яшчэ і цяпер помняць такія радкі, прыдуманыя калектыўна рэдакцыйнымі паэтамі:

**С головы Якуба Коласа**
**Не должно упасть и волоса.**
**Отдадим Якубу Коласу**
**Всю вторую полосу.**

На старонках газеты друкаваліся артыкулы Коласа «Воінам Чырвонай Арміі», «Дзве стратэгіі», «Слава вам, героі!», «Байцу-ваенкору», а таксама вершы і апавяданні.



іхні Дарвішаў прыехалі, сядзяць над каркам—пішы! А ў мяне рознай іншай работы да ліха! Кажу, у Мінск прыязджайце восенню, там і папрацуем. Не згодны, кажуць, з гэтага нічога не выйдзе. Пішы! І смех, і грэх! Хаджу і думаю, як бы гэта ім падалікатней намякнуць, што не ў час. І вось неяк вечарам кажу ім: «Ну, калі вы заўтра паедзеце, то я вас на станцыю падвязу на машыне, а калі не, то ўжо выбачайце, давядзецца ісці пяшэчкам, мне да сваякоў трэба з'ездзіць, у Мікалаеўшчыну».

На прэм'еры оперы «У пушчах Палесся» вялікая зала новага опернага тэатра, які толькі адкрыўся, была поўная гледачоў. Урачысты настрой панаваў усюды—і ў зале, і на сцэне, і за кулісамі. Прэм'ера оперы—вялікая падзея ў тэатры, а тут яшчэ свая, арыгінальная. З прыступкаў амфітэатра можна было пабачыць усіх мінскіх тэатралаў, аматараў музыкі, кіраўнікоў мастацтва і розных іншых гледачоў.

Ужо ў самым пачатку спектакля эмацыянальна яркая, гераічная ўверцюра Багатырова выклікала апладысменты. Не толькі шматлікія хоры, але і паасобныя выканаўцы мелі поспех. Асабліва дзед Тарас—І. Мурамцаў, Саўка—П. Засецкі, Кузьміч—А. Арсенка, Андрэй—В. Лапін, Аўгіння—С. Друкер. Пакінулі добрае ўражанне і велічныя дэкарацыі выдатнага тэатральнага мастака Сяргея Нікалаева.

«У пушчах Палесся» вырашылі паказаць на першай Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. На сцэне Вялікага тэатра Саюза ССР загучалі хоры і арыі палешукоў аб іх жыцці і барацьбе за сваё савецкае жыццё. Гарачыя апладысменты гледачоў, станоўчыя водгукі друку, дзяржаўная прэмія кампазітару—усё гэта і хвалявала, і радавала, і выклікала новыя творчыя жаданні.

**Мы ўспомнілі пра гэта з Канстанцінам Міхайлавічам, аднойчы седзячы на зялёным лужку перад векавечным дрымучым борам у Каралішчавічах, нашым Доме творчасці і адпачынку. Беларускі ўрад даў яго пісьменнікам узамен разбуранага фашыстамі цудоўнага палаца ў Пухавічах. Спакой і задуменнасць гэтага ляснога надвячорка часам узрывалі дзеці, якія праносіліся з гікам ваяўнічых іракезаў па лясной палянцы... Вечарэла, недзе ў лесе ляскаў тамагаўк Міхася Лынькова, які сек галлё на штовячэрні касцёр для бяседы. Жнівеньскае чырвонае сонца пафарбавала верхавіны соснаў, паклала на палаючыя вокны двухпавярховага драўлянага дома свае мядзяныя карункі.**

— Вайна спыніла ўсе добрыя намеры,—уздыхнуў Колас.—Я выбраўся з Мінска, калі ён гарэў, агонь з цэнтра горада падбіраўся ўжо і да маёй хаты. Шафёра ўзялі ў армію, а без яго машыну скалечылі, да вакзала было не падысці. Нам давялося дабірацца ў Калодзішчы пехатою. Да Оршы ехалі спадарожнай машынай. Бомбы сыпаліся, як той град, але мы неяк праскочылі. Начавалі ў Купалы на дачы, а пасля падаліся ў Калінін, а адтуль ужо цягніком у Маскву. І толькі там у маёй галаве рассеяўся туман, які зацямняў мазгі ўсю дарогу. Адразу стала святлей на душы, сціхла сэрца. Гэта, відаць, маскоўскі спакой так уплываў на мяне. Вера, пачуццё сілы і ўпэўненасці ў спыненні немцаў проста здзіўлялі. Ніякай панікі... На вуліцах людна, але ціха, строга, неба прыкрыта аэрастатамі, уначы — зацямненне. Салдаты ідуць на перадавыя—суровыя, але сабраныя. Я проста быў упэўнены, што мы скруцім Гітлеру рогі, і дачакаўся гэтага. Мы вярнуліся ў Мінск. Ён ляжаў у руінах, але, бачыце, падняўся, стаў яшчэ прыгажэйшы. І ва ўсім гэтым—наш савецкі чалавек, яго творчая энергія і неадольная прага да жыцця.

— Гэта праўда, — запоўніў я паўзу, калі Колас на хвілінку змоўк,—Ленін гаварыў, што розум чалавечы адкрыў многа дзіўнага ў прыродзе і адкрые яшчэ больш, павялічваючы сваю ўладу над ёю.

— Мы перамаглі самае цяжкае, што ёсць у жыцці,—хцівасць чалавека, класавую нянавісць, расізм, фашызм...—Колас падняўся і цяжкой хадою прайшоўся ўздоўж паляны.—Вось ліха на яго, ужо і ногі не ходзяць. Быў конь ды з'ездзіўся!—горка ўсміхнуўся ён.—Сціло, як кажа Лынькоў, не магу ў рукі ўзяць, а без яго якое жыццё. Але цярплю. Надта не люблю турбаваць каго сваёй асобай. Ды і вылечыўся ўсё ж! Казаў жа Леў Талстой вуснамі аднаго свайго героя ў «Вайне і міры»: «Нягледзячы на тое, што яго лячылі дактары, давалі лякарствы, ён усё ж такі паправіўся». Гэта жарт, вядома,—падняўся Колас з крэсла.—Каб не медыцына ды нашы мілыя дактары, асабліва доктаркі, я б даўно ўжо ляжаў у дубовай скрынцы, занадта многа давялося перажыць усяго такога, чаго нашы ўнукі і ўцяміць не змогуць...

□

МЫ ПАЙШЛІ да вялікага вогнішча, якое раздзьмуў Міхась Ціханавіч. Тут ужо вакол яго сядзелі на карчах і ляжалі, падклаўшы што з адзежы, на цёплай зямлі Кандрат Крапіва і два Петрусі—Броўка і Глебка, два Іваны—Мележ і Шамякін, два Максімы—Танк і Лужанін, два Янкі—Брыль і Маўр, і адзін Аркадзь—Куляшоў...

Адчуванне было такое, нібы гэта сыны асілка, яго дзеці... Сям'я па духу.

Пісаў Колас і аб працоўных буднях Узбекістана, аб дапамозе ташкентцаў фронту і савецкаму тылу, славіў мужных узбекаў-воінаў:

**На захад дарога мая. Мне пара—**
**Узбека-пілота пазнай, немчура!**
**На голавы град ёй свінцовы**
**праллю, —**
**Не дрогне рука мая ў смертным**
**баю!**
**За дружбу народаў, за волю**
**братоў**
**Жыццё маладое аддаць я гатоў.**

Вялікай павагай да ўзбекскага народа і яго культуры прасякнуты артыкул Якуба Коласа «Гафур Гулям», напісаны ім да 50-годдзя з дня нараджэння таленавітага пісьменніка.

Акрамя літаратурнай працы, Якуб Колас вёў вялікую грамадскую дзейнасць як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, а таксама як член Усеславянскага камітэта. «Учора выступаў па радыё,—піша народны паэт у лісце да Міхася Лынькова, — была беларуская перадача ў Ташкенце... Я чытаў верш пра бацьку Міная.

Сёння выступаю ў парку».

А вось яшчэ вытрымка з пісьма да Лынькова: «Днямі закончылі сесію Акадэміі навук. Мне прыйшлося выступаць з дакладам на сесіі. Тэма даклада—векавая дружба беларускага і рускага народа і іх барацьба супраць нямецкай агрэсіі. Тэма даклада гістарычная. Шмат заняла ў мяне часу».

Напружаная праца пачала адбівацца на здароўі («Гэтым летам як ніколі я адчуваў сябе стомленым», — скардзіўся Колас у пісьме Петрусю Броўку). І Узбекістан прадаставіў паэту адзін з лепшых сваіх горных курортаў—Чымган. Колас быў у захапленні ад экзатычнай непаўторнай прыроды Чымгана. Ён любаваўся рэчкамі з крыштальна чыстаю вадою, спыняўся ў пячорах з ружовага туфу, густа парослых папараццю, дзівіўся багаццю расліннага свету. У Чымгане добра працавалася. Тут былі завершаны некаторыя апавяданні, асобныя раздзелы паэмы «Адплата».

Але думкі аб роднай Беларусі ні на імгненне не пакідалі паэта і ў гэтым чароўным кутку: «Збіраюся ў выраи на захад,—піша ён Кандрату Крапіве. — Можа ў гэтым годзе—жыве ў мяне такая ўпэўненасць—і ўсе мы падамося на сваю зямлю—на Дзвіну, на Бярозу, на Дняпро, Свіслач і Нёман. Божа мой, як хацеў бы я пахадзіць па лесе, па свіслацкіх грудах! Калі б нашоў першага баравіка, дык стаў бы перад ім на калені, пацалаваў бы яго, як брата, і прачытаў бы яму верш, спецыяльна зложаны для яго».

І сапраўды, хутка беларускі пясняр пакінуў Узбекістан. Накіроўваючыся спачатку ў Маскву, а потым—у родную Беларусь, ён пакінуў аб сонечнай узбекскай зямлі поўныя ўдзячнасці і любві радкі:

**У цяжкі час вайны суровай**
**Ты даў прытулак мне,**
**З узбекам песню адной мовай**
**Складалі аб вайне.**
**І меч адзін мы з ім кавалі**
**На злы варожы стан.**
**Няхай жа ўзносяць вышай**
**хвалі**
**Цябе, Узбекістан.**
**Павеяў вецер, бы ў прадвесне,**
**Над нашаю зямлёй.**
**На развітанне—з гэтай песняй**
**Прывет прымі ты мой.**

**М. ЖЫГОЦКІ.**



НА ЗДЫМАЧНЫХ ПЛЯЦОЎКАХ

# БІЯГРАФІЯ ПАЛАНЕЗА

Гэтая музыка набыла сусветную вядомасць. Матыў славутага «Паланеза Агінскага» гучыць на радыёхвалях і ў канцэртных залах, распаўсюджаны шматтысячнымі тыражамі грампласцінак, ён цытуецца ў драматычных спектаклях... Здаецца, яго ведаюць усе.

Цяпер у творчым аб'яднанні «Летапіс» студыі «Беларусьфільм» здымаецца дакументальная стужка, прысвечаная жыццю і дзейнасці выдатнага польскага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. «Героем» гэтага твора будзе музыка. Слухаючы яе, мы як бы «пагартаем» старонкі гісторыі, адчуем подых рэвалюцыйных навальніц, тое, што натхняла музыканта і грамадскага дзеяча.

Вядомы паланез М. Агінскага мае назву «Развітанне з радзімай». Гэтыя словы пэўным чынам уплываюць на асноўную інтанацыю біяграфічнага фільма.

Мы звярнуліся да аўтара сцэнарыя і рэжысёра каляровага шыроказкраннага фільма пад назвай «Біяграфія паланеза ля-мінор» Віктара Дашука з пытаннем пра работу над карцінай.

— Задума ў мяне нарадзілася аднойчы, калі я пабачыў непаўторны беларускі пейзаж у асеннюю пару, прыгожыя краявіды пад Смаргонню. Руіны замка чатырнаццатага стагоддзя... Вялізны камень-валун з выбітымі на ім літарамі «Слава Касцюшку!»... Чамусьці прыгадалася музыка «Развітанне з радзімай». Прыгадаліся старонкі бурнага жыцця аўтара паланеза, яго грамадзянская мужнасць, — так, мабыць, з'явіўся намер, пачаўшы здымкі тут, каля стагадовых ліп у былым маёнтку Агінскага Залессе, стварыць кінаапавяданне, у цэнтры якога будзе музыка. А яна ж адлюстроўвае ў гукавых мастацкіх вобразах рэчаіснасць, у ёй жыве душа чалавека, пакуты і надзеі, роздум пра радзіму і свой абавязак перад ёй. Усё гэта падкажа нам канкрэтныя кадры. Частку з іх мы здымаем на паэтычнай натуры, частку здабываем з архіўных матэрыялаў. Паланез прагучыць у выкананні прафесійных артыстаў і ўдзельнікаў самадзейнасці.

Хацелася б, каб унутраны сюжэт будучага фільма развівала паэтычная думка, настрой крылатай музыкі. Шчыра кажучы, для мяне гэта ў пэўнай ступені эксперыментальны пошук. Мы будзем будаваць каркас стужкі з мазаікі адлюстраваных на экране гістарычных фактаў, падзей, імёнаў, уражанняў, роздуму.

Выяўленчы малюнак — чароўны беларускі пейзаж. Іканаграфічныя матэрыялы, у тым ліку дзённік кампазітара, знайшлі ў музеях Вільнюса, Львова, Масквы.

Аператар фільма — Юрый Елхаў, музычнае афармленне рыхтуе кампазітар Алег Янчанка...

Нам давялося прысутнічаць на здымках эпізода фільма, у якім удзельнічае самадзейны ансамбль песні і пляскі імя Агінскага са Смаргоні. Адчувалася, што артысты-аматары ганарацца даверам рэжысёра і, як кажуць, адразу знайшлі агульную мову з В. Дашуком і Ю. Елхавым.



На здымку — рабочы момант. Першы справа— В. Дашук.

Тэкст і фота
Ул. ЖЫЛЕВІЧА.

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ МАСТАКОЎ



**ЯСВІН Яўген Станіслававіч.** Нарадзіўся ў 1935 годзе ў гарадскім пасёлку Асвея. У 1966 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Аўтар карцін «Лён», «З працы», «Жаночы партрэт», «Восень», «Партрэт дзяўчыны», «Чайкі».



**ЯЎСЕЕЎ Віктар Кандратавіч.** Нарадзіўся ў 1944 годзе ў горадзе Сяміпалацінску. Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут скончыў у 1967 годзе. Аўтар карцін «Мастак у вёсцы», «Вясковы інтэр'ер», «У аўтобусе», «Акно дзяцінства», «Шклозыдзімальшчыкі», графічных лістоў «Роздум», «Фабрыка фартэпіяна», «Парыў».

# ПРАЦЯГ ЗНАЁМСТВА

**Сёлета госцем беларускай сталіцы быў Маскоўскі тэатр на Малой Броннай. Арыгінальная, яркая рэжысура, сузор'е таленавітых акцёраў прывабілі мінскую публіку. Усе спектаклі ішлі на аншлагах. І яшчэ доўга пасля ад'езду тэатра гледачы спрачаліся, дзяліліся ўражаннямі, зноў і зноў перажывалі сустрэчы з героямі Шэкспіра, Дастаеўскага, Арбузава, Дварэцкага...**

**І вось зусім нядаўна па запрашэнні БТА для сустрэчы з творчымі работнікамі беларускіх тэатраў, крытыкамі, журналістамі ў Мінску пабываў рэжысёр гэтага тэатра Анатоль Эфрос.**

**Ён расказаў пра творчасць маскоўскіх і ленінградскіх рэжысёраў, чые імёны выклікаюць бясспрэчную і нязменную цікавасць: Георгія Таўстаногава, Юрыя Любімава, Алега Яфрэмава, Леаніда Хейфеца, Андрэя Ганчарова.**

**Цікава было зноў пачуць пра жыццё калектыву, які стаў блізкі. Эфрос расказаў пра свае творчыя планы і задумы. Цяпер ён працуе над мальераўскім «Дон-Жуанам». Наперадзе—новыя п'есы В. Розава, І. Дварэцкага.**

**Гэты месяц багаты на сустрэчы.**

**Днямі госцем беларускіх кінематаграфістаў была вядомая артыстка тэатра і кіно Ала Дзямідава.**

**— Вядома, — сказала яна,—што галоўнае для акцёра — талент. Але гэта тое, што ад чалавека не залежыць. А калі талент ёсць, што галоўнае тады? На мой погляд — цвярозы розум, уменне пераадольваць банальныя ўяўленні пра людзей і з'явы. Сапраўдны, на мой погляд, толькі той акцёр, які жыве страсцямі і трывогамі часу, які заўсёды шукае. Раней мне здавалася, што сучасная манера ігры — гэта незвычайная стрыманасць, лаканічнасць, нават нейкі аскетызм. Я пра гэта шмат разважала, пісала... Цяпер я ўсё больш пераконваюся, што грамадзянскія і асабістыя якасці артыста ўрэшце рашаючыя. І што паняцце «сучасны стыль ігры» дастаткова ўмоўнае. Неяк я глядзела па тэлебачанні старэйшую артыстку Малога тэатра Варвару Рыжову. Здаецца, больш сучаснай артысткі я не бачыла...**

**Ала Дзямідава расказала пра тэатр на Таганцы, у якім яна працуе, пра апошнія работы Ю. Любімава «Гамлет» і «А зоры тут ціхія...»**

**Сустрэча закончылася праглядам урыўкаў з апошніх фільмаў з удзелам Алы Дзямідавай.**

Кастусь КІРЭЕНКА

Малюнкі А. САПЕТКІ.



# АПАВЯДАННІ З «АЛЕСЕВАЙ КНІЖКІ»

*АХ, ЯК ЛЮБІЦЬ Алесь, каб мама чытала яму кніжкі!*

*Ні снедаць так сабе не сядзе, ні абедаць. Патворыцца, упрошвае маму: прачытай ды прачытай што-небудзь.*

*Як тут быць маці? Яна і тое, яна і сёе,—не даць рады, упарціцца хлопчык. Губкі надзьме, скасавурыцца і сядзіць, чакае, лыжкі не бярэ ў рукі.*

*Добра так рабіць ці не? Ну, безумоўна ж, нядобра! Не здагадваецца Алесь, што гэтым ён вельмі і вельмі крыўдзіць маму!*

*Але што ж маці прыдумаць? Любіць яна Алеся, пазлуецца, пазлуецца, а пасля — зноў, як і заўсёды,—бярэ то адну, то другую кніжку, сыну чытаць пачынае.*

*Ды Алесь і тут сваё:*

*— Гэтыя кніжкі старыя! Новыя пачытай!*

*А дзе маці ўзяць новыя кніжкі? Яна і так вунь колькі кніжак накупіла. Тысячы ўсякіх гісторый у іх. А сыну новыя падавай. Гэтыя ён, — кажа,—ведаю! Не трэба мне,—кажа,—старых казак і апавяданняў!*

*Вось і пачала маці складаць сыну апавяданні сама. Адгорне кніжку, як быццам чытае, а на самай справе — расказвае сваё, што сама прыдумала або прыгадала. Алесь напачатку не верыў: не было ў гэтай кніжцы такіх апавяданняў. Але маці яго запэўніла:*

*— Гэта я тыя зараз чытаю, якія раней прапусціла...*

*— А чаму прапусціла?*

*— Думала, што нецікавыя. А яны цікавыя...*

*Паверыў нарэшце Алесь. Не перабіваў больш маці. Вось так і сабралася ў маці апавяданняў і гісторый на цэлую новую кніжку. Потым мы з Алесевай мамай запісалі ўсе апавяданні на паперы і назвалі іх: «Алесева кніжка».*

*У кніжцы апавяданні пра маленства Алеся і яго сяброў або знаёмых. Але ёсць у ёй і такія, якія падказваў маме сам Алесь. Асабліва пра тое, дзе што ён знайшоў і ўбачыў, што вельмі яго ўразіла.*

## ВУЛІЦА

Зрабілі праз вёску новую асфальтаваную вуліцу.

Зрабілі на месцы старой вуліцы, што была калісьці такая балацяная, раз'язджаная, гразкая— ног не выцягнуць.

Зрабілі вуліцу доўгую, шырокую, раўнюткую, бліскучую. Заўсёды яна цёплая-цёплая, калі свеціць сонца. І чыстая-чыстая, калі пройдзе дождж.

Вельмі спадабалася вуліца дзецям.

Дзіва што! Як не ўпадабаць яе!

Большым дзецям добра па гэтай вуліцы хадзіць у школу. Самі ногі па асфальце бягуць. Ніколі ў школу не спознішся!

А меншым іх брацікам і сястрычкам вельмі лёгка і цікава па новай вуліцы бегаць у лес па ягады і грыбы або ў госці адзін да аднаго, у адведкі хадзіць. А калі дарослыя не бачаць — дык і ў класы і ў мячык пагуляць на такой вуліцы — ого як добра!

Калі ўсю работу на вуліцы рабочыя скончылі, дык надоўга з



вёскі зніклі. Але потым зноў прыехалі. Мусіць, паглядзець, ці добра ў вёсцы шануюць іхнюю вуліцу. Вуліца ў той дзень аж свяцілася пад сонцам — прыгожая, чыстая. Рабочыя задаволеныя, сабраліся ад'язджаць. І тут да самага старэйшага дзядзькі падышоў малы Тамаш і спытаў:

— Дзядзечка, гэта вы будавалі нашу вуліцу?

— Мы, — адказаў рабочы.

Малы Тамаш доўга з захапленнем глядзеў на рабочага, нахіляючы русую галоўку то ў адзін, то ў другі бок. Потым, нічога не сказаўшы, адышоўся і стаў назіраць, як рабочыя рыхтуюць да ад'езду свае машыны.

Старэйшы рабочы падышоў да гурта дзяцей і спытаў:

— Дзеці, а як завуць вашага сябра?

— Тамаш. Гэта наш Тамаш! — дружна адказалі дзеці.

— Сур'ёзны чалавек!..

Рабочы вярнуўся да сваіх таварышаў і нешта ім сказаў. Яны ўсе заўсміхаліся, мусіць, былі дужа задаволеныя. Потым галасна паклікалі дзяцей.

— Бяжыце сюды, малышы!

І калі дзеці падбеглі, сказалі:

— Вось што мы надумалі. Будзем зваць вашу вуліцу Тамашовай. Тамашова вуліца. Згодны?

— Згодны! Згодны! — дружна адказалі дзеці. І хорам закрычалі:

— Тамашова вуліца! Тамашова вуліца!

— Ну, вось і добра, — сказалі рабочыя. — А цяпер — бывайце, малышы! Бывай, дружа Тамаш!

— Бывай, Тамаш! —крыкнуў асобна старэйшы рабочы.

І ўсе селі ў машыны і паехалі.

Дзеці стаялі, весела махалі ім рукамі і крычалі «бывайце!» А ўперадзе ўсіх стаяў і махаў рукою малы Тамаш.

## ЛЯЦЕЛІ ПТУШКІ

Ляцелі птушкі з выраю, над знаёмымі лясамі і азёрамі кружыліся, родныя сёлы і дарогі між імі пазнавалі: дзе хто вырас, дзе лётаць вучыўся — успаміналі; выбіралі куткі лугавыя, балотныя купінкі непрыкметныя; дубы, і бярозы, лясныя кражы для новых гнёздаў.

Ляцелі птушкі, гаманілі між сабою.

Казалі качкі:

— Глядзіце, глядзіце, дружбакі-прыяцелі, вось наша завоіна між ракою і возерам. Вунь выспачка, зарослая вербалозам! Колькі тут па берагах вырасце блёкату. А за блёкатам — чараты зашумяць над вадою. А колькі тут пячурак ёсць пад самым берагам. Як вольна, як радасна было нам вырастаць тут і вучыцца лётаць. Ніхто нас не напалохаў за ўсё лета. Бывайце ж, бывайце, дружбакі-прыяцелі, тут мы будзем гадаваць сваіх дзетак!

Казалі кнігаўкі:

— А вось і наша лясная паляна шырокая між дзвюма выжарынамі балотнымі. На імшаных купінах пясчаных пакладзём мы свае яечкі рабаценістыя. Як летась, выведзем птушанят прыгожых. У цішыні лясной навучацца яны крычаць імя наша слаўнае «кнігаўкі» і на ўвесь век свой запомняць гэты радасны кут...

Казалі гусі-лебедзі:

— І мы, і мы з вышыні сонечнай бачым нашы гняздоўі ў пуш-



чах дрымучых. Вунь-вунь, глядзіце, як свецяцца азёры чыстыя, азёры глыбокія! Хутчэй, хутчэй нас нясіце, нястомныя крылы! Скінем, гусі-лебедзі, край родны вітаючы, над кожнай хатай па белай пушынцы...

І жураўлі затрубілі ў трубы сярэбраныя:

— Любы наш край, добры дзень, мы з чужыны вярнуліся!

І невялікае птаства гамонкаю шчырай, шчаслівай зямлю сваю славіла. Жаваранак сыпаў званочкамі чыстымі. Шпак распяваў, сто ладоў спамінаючы. Дразды спрабавалі галасы летуценныя...

Толькі зусім без ніякае радасці, занепакоена, два буслы падляталі да вёскі зарэчнай, што паміж полем і лесам віднелася.

— Што з вамі, браты нашы, буслы ціхамірныя, які вас гняце непакой? Раскажыце, няўжо вас спатканне з зямлёй сваёй роднай не радуе?

Сказалі буслы:

— Любыя нашы браты, дружбакі і прыяцелі! Ведайце: нас не спынілі ні моры шырокія, ні вяршыні высокія. Усё мы адолелі, толькі б да роднага краю дабрацца... Вунь наша вёска віднеецца. Там каля хаты адной ручаінка віецца. А па-над ёй — ясакар стогадовы стаіць. На тым ясакары — гняздо наша роднае. Летась мы там нарадзіліся, выраслі, там мы хацелі б зноў пасяліцца. Бацька стары наш загінуў у краі чужым. А матуля ад суму памерла. І нам перад смерцю яна наказала: ляцець да гнязда, дзе нас лётаць вучыла... Толькі ў той хаце каля ясакара ёсць хлопчык нядобры... Помнім, як біў ён з рагаткі ў гняздо наша роднае... Помнім, як змей папяровы яго над гняздом лапацеў, нас палохаў... Помнім, як ён свайго чорнага Ваську-ката падвучваў, каб той злосна курняўкаў, і карай гразіўся. Што ж нам рабіць, нашы любыя птушкі, парайце: хочам мы на ясакары зноў пасяліцца і баімся — а што нам прыдумаў за зіму той хлопчык...

Сціхлі гаманлівыя птушкі. Шкада ім буслоў, і не ведаюць, што ім параіць.

Раптам гукнуў-затрубіў жураўель.

— Паглядзіце! Глядзіце, буслы, ці не ваш ясакар там я бачу? Паглядзіце: бабулька з дзядулем стаяць каля дрэва і з імі там яшчэ хлопчык малы. Паглядзіце, глядзіце — усе яны сочаць за намі, махаюць рукамі. Напэўна, прылёт наш вітаюць, глядзіце ж, глядзіце!

Паглядзелі буслы:

— Наш! Наш гэта ясакар! Нашы дзед і бабуля! Наш хлопчык— Ясем завуць.

І сказалі лебедзі:

— Давайце ж спусцімся ніжэй, паслухаем, што яны гавораць.

І спусціліся птушкі ніжэй і пачулі:

— Дзядулечка родны! Бабулечка любая!— казаў хлопчык Ясь.— Пагукайце буслам — хай вернуцца, хай прыляцяць на наш ясакар. Ніколі больш, ніколі я іх не пакрыўджу, ніколі нічым не напалохаю. Будзе ім добра на нашым ясакары! Пагукайце, дзед і бабуля!

І стаялі дзед і бабуля і ціха шапталі:

— Ляціце, буслы-бусляняткі, ляціце да роднае хаткі... Ляціце, буслы, ці чуеце? — ляціце, не пашкадуеце...

Пачулі буслы хлопчыка Яся, і дзеда, і бабулю, і ўзрадаваліся ўсім сэрцам. Развіталіся з сябрамі, склалі крылы і рынуліся ўніз да роднага ясакара. Пакружылі над дзедам і бабуляй і над хлопчыкам Ясем і апусціліся на старое сваё гняздо на самай вяршыні дрэва. І весела заклекаталі над ваколіцай. І хлопчык Ясь, і дзед, і бабуля радасна замахалі ім рукамі.

Птушкі зрабілі над імі развітальны круг і паляцелі далей.

Ляцелі птушкі з выраю. Радаваўся родны край...

## СЛЁЗЫ ІВАНКІ

Бяжыць Іванка з вуліцы і махае рукамі. Твар мурзаты, валасы ва ўсе бакі тырчаць. Ды і што паробіш: галоўка ў Іванкі віхрастая, ніяк яе не прычасаць. Не слухаюцца валасы. Дык ён іх мокрай даланёю прыплешча — што кароўка языком залізала. Але потым валасы — зноў тырчком.

Бяжыць Іванка, спяшаецца, крычыць:

— А ў мяне нештачка! А ў мяне нештачка! Цётка Валя дала!

Паштальёнку цётку Валю ведаюць усе: і дарослыя, і малыя. І яна таксама ўсіх у двары знае. Таму, калі здараецца пад рукою хто-небудзь з малых, дык яна аддае яму ліст ці газету і наказвае:

— Бяжы, перадай татку ці мамцы, а я тут пачакаю...



Вось і Іванка так прынёс ліст ад бабулі. Перадаў маме і сочыць, як бегаюць маміны вочы па паперы. Мама хмурыцца, і Іванка хмурыцца, мама ўсміхаецца, і Іванка ўсміхаецца.

Дачытала мама пісьмо, пацалавала сына ў кірпаты носік ды і кажа:

— Паклон табе, Іванка, бабуля перадае.

Узрадаваўся Іванка, пакруціўся на адной назе, скінуў палітончык свой: будзе, кажа, дома. Мама схавала лісток у канверт, паклала на столік пад кнігу — тату не забыцца даць прачытаць, як дадому прыйдзе. А сама занялася хатнімі справамі.

Але дзе тут чым пазаймаешся, калі Іванка дома? Ходзіць ён следам: куды мама крок, туды ён два. Быццам дапамагаць маме хоча, а на самай справе — замінае.

— Іванка, сынок, ішоў бы ты на вуліцу. Глянь, як сонейка свеціць...

— Не, я тут буду... — адказвае Іванка.

Занепакоілася мама. Што з хлопчыкам здарылася? То і на хвілінку дома не затрымаць, а тут — бач ты, нібы прывязаны.

— Іванка, ці ты часам з Андрэйкам не пабіўся? — пытае мама.

— Не, мамачка. Мы гулялі ў квача.

— Тады чаго ж ты сядзіш дома?

— Так сабе... — адказвае Іванка.

Сталі сабірацца дамоў старэйшыя. Сястрычка з брацікам са школы прыйшлі. Тата са службы вярнуўся. Селі абедаць. І раптам глядзіць маці: Іванка есці не бярэ, на вачах слёзы.

— Сыночак, што з табою? Ці не захварэў ты? Такі вясёленькі быў, а тут вочкі плакаць хочуць...

Не стрымаўся Іванка. Заплакаў і кажа:

— Ты ўсё робіш і робіш... А паклон бабулін калі мне перадасі?

Дык вось якая турбота! Пачала маці расказваць пра пісьмо бабуліна і пра паклон Іванку.

— Я ж, сыночак, перадала табе паклон бабулін і ў носік пацалавала, як бабуля напісала.

Пасадзіў тата Іванку на калені і стаў яму тлумачыць, што такое бабулін паклон.

А з вамі, дзеці, не здаралася такой бяды?

## ЦУДОЎНАЯ ЗОРКА

Кожным адвячоркам, яшчэ нават і не змеркнецца як след, над дзвюма соснамі за хатай узыходзіць цудоўная зорка.



На ўсё, на ўсё неба адна.

Яшчэ не скора на небе заблісцяць рознакаляровыя зоры і сузор'і. А цудоўная зорка ўжо весела зззе на небе. Зззе летуценна і таямніча, замоўна і заклікальна, ціхавейна і палымяна.

Гэтую зорку завуць Венера.

— Мама, — спытаў аднойчы Алесь, — чаму, калі я гляджу на гэтую зорку, то мне заўсёды робіцца і радасна і сумна?

Мама як быццам спалохалася такога Алесевага пытання. Мусіць, яна падумала: што гэта за пытанне, адкуль яно ў сына? Але той чакаў адказу, і маці, уздыхнуўшы, сказала:

— Радасць табе прыносіць гэтая зорка таму, сынок, што ты марыш паляцець да яе. І паляціш... Вырасцеш і паляціш на хуткай ракеце да самай Венеры...

А сумна табе таму, што, паляцеўшы да цудоўнай той зоркі, расстанешся ты са мною, сваёю матуляй, і з зямлёю сваёй роднай...

На вачах у маці заблішчалі дзве слязінкі. Алесь заўважыў іх, і яму так шкада стала мамы. Раптам ён успомніў, чым можна вярнуць маме добры настрой, і кінуўся ў хату. Праз хвіліну адтуль пачулася запісаная на плёнку любімая матуліна песня.

Зорка Венера ўзышла
над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой
прынясла...

Калі праз некалькі хвілін Алесь выйшаў да маці, — яна сядзела ля парога хаты і ўсміхалася. Але слязінка, што скацілася ад вока, не высахла, а свяцілася каля губ. Алесь падышоў і пацалаваў маці ў тую слязінку.

## ЕЛАЧКІ

Зусім яшчэ нядаўна не было нічога каля гэтай дарогі. Алесь добра памятае... не было...

І раптам — кволыя, тоненькія, як варсінкі, дрэўцы густа-густа абсыпалі пульхную глебу прыдарожнага ўзгорачка. Адкуль яны?



— А вунь за балотцам яліны высокія бачыш? — пытае маці...— Гэта яны зерне сюды кінулі. Зерне і ўзышло...

— А нашто столькі?

— А каб ты ўзяў ды і рассадзіў сеянцы елачак усцяж дарогі. І паўз сцежкі дадому таксама. От будзе любата. Усе дзякуй скажуць.

Узрадаваўся Алесь, пабег дадому, узяў рыдлёўку. Накапаў паўз дарогі ямачак, а тады ўзяўся выкопваць сеянцы. Асцярожна падварушыць елачку з усіх бакоў, возьме разам з зямлёю на жалязняк і перанясе ў гатовую ямачку. Роўненька потым абгорне елачку зямлёю, каб засыпаліся ўсе карэньчыкі. Каб лёгка было елачцы прыняцца на новым месцы.

Дужа стаміўся Алесь за сваім клопатам, расчырванеўся, потам абліваецца, але працы не кідае, пакуль да канца не дайшоў. Калі ж пасадзіў апошнюю елачку і азірнуўся — аж душа ад радасці зайшлася: не пазнаць роднай дарогі і сцежкі — быццам зялёны, з карункамі паясочак працягнуўся ад лесу да самае іхняе хаты.

— А ці тое яшчэ будзе, як падрастуць, як вырастуць елачкі! — сказала мама. — Не налюбуешся!

— А мае елачкі таксама кінуць зерні на дарогу?

— Кінуць, кінуць, сынок. І чым вышэйшыя вырастуць елачкі, тым далей і зерні іхнія паляцяць. Тым далей і краса па зямлі пойдзе.

Даслухаў Алесь маці і пабег дадому па вядро: хутчэй паліць свае елачкі. Каб вышэйшыя раслі!

## ПАРАСТКІ

Упала дрэва, лясная ракіта высокая. Зімовая бура, мусіць, навалілася на яго цяжарам сівера снегавейнага. І не вытрымала дрэва, падламілася на ўсю тоўшчу ствала.

Вясною, калі цёпла прыгрэла сонейка, цяжкія снегавыя гурбы ў лесе расталі, белая рана перелома на дрэве агалілася. І ўсе з жалем убачылі, як страшна пашчапана дрэва, і сумна падумалі: не жыць болей яму.



Сокі зямлі, што абуджаюцца заўсёды вясною і пачынаюць плыніць па жылах дрэў, плынілі і па каранях зламанай ракіты, імкнучыся з глыбіні на свет, да сонца. Яны плынілі, не спыняючыся, але не было як ім падымацца вышэй, і яны сцякалі па пні зноў у глебу, пакрываліся на пераломе іржавай рудою, дыміліся на сонцы, засыхалі. І хутка на пні ракіты ўтварылася як бы запечаная сухая скарынка, дзе-нідзе паточаная мурашкамі і машкарою. І калі навокал паваленай ракіты весела пырснулі з пупышак вострыя зялёныя кліночкі лісця на бярэзінках і асінках, дык за гэтай зялёнай заслонаю ўжо не відаць было дрэва: здавалася, яно памерла...

Але не, не памерла дрэва.

Вузенькая палосачка кары ракітавай не адарвалася зусім ад роднага свайго камля. І па гэтай вузенькай карынцы зямныя сокі ўсё ж прабіліся да ствала дрэва. І хоць лісточкі, якія выклюнуліся з пупышак зламанай ракіты, жылі нядоўга, кволыя і бледныя, пасядзелі трохі і засохлі, затое бліжэй да камля і пасярэдзіне дрэва выскачылі са ствала, як тугія стрэлы, гнуткія зялёныя парасткі. І так напорыста яны раслі, так імкліва цягнуліся ўгору, што хутка іх верхнія вузкія і доўгія лісточкі сталі такія ж, як на суседніх бярозках і асінках. А к сярэдзіне лета бярозкі і асінкі і зусім адсталі: цупкія, стройныя ракітавыя парасткі здалёк прыцягвалі ўвагу сваёй дзябёлай, упэўненай сілай.

— Глянь хутчэй, мама! — сказаў, тузаючы маці за руку, русавы хлопчык год васьмі. — Глядзі, мама, там сёння зноў тыя ж самыя птушкі.

Маці спынілася.

— Давай, пастаім. Паглядзім.

На гнуткіх, нібы спружыністых ракітавых парастках сядзелі і гушкаліся невялікія, з ружовымі грудкамі, лясныя птушкі. Так было штодня. І ўчора, і заўчора, і яшчэ раней хлопчык з маці бачылі тут гэтых птушак. Яны прылятаді сюды з самай раніцы, разгойдвалі тонкія, тугія парасткі і весела падлётвалі на іх, як на арэлях. І штораз крылцы іхнія раскрываліся, як для палёту, нібы прабуючы сваю сілу. Здавалася, тут была птушыная школа — на гэтых арэлях бацькі, мусіць, вучылі сваіх птушанят доўга і ўпэўнена без стомы працаваць крыламі.

Заўсёды маці спыняла хлопчыка, каб даць птушкам пагойдацца ўволю. А хлопчыку ніколі не цярпелася, яму хацелася хоць раз пабачыць птушак бліжэй. Так і сёння. Хлопчык настойліва пацягнуў маці за руку, і яны пайшлі. Аднак, ледзь толькі маці з хлопчыкам выйшлі на чыстае месца, птушкі ўзняліся і пераляцелі на высокія суседнія яліны. Парасткі яшчэ трохі пагайдаліся, і на іх адразу паселі бухматыя жоўта-белыя матылі. Ім таксама хацелася пагушкацца. Але і яны ўзляцелі, калі хлопчык падбег да ўпалае ракіты.

Учора ўвечары ішоў дождж. Усё ў лесе было свежае і чыстае. І маці з хлопчыкам адразу ўбачылі тое, чаго раней не заўважалі: у тых месцах, дзе высіліся парасткі, ад пачарнелага ракітавага ствала цягнуліся ўніз да зямлі белыя нітачкі. Яны прашылі леташняе лісце, прыцягнулі да сябе камякі глебы, і ад гэтага зямля стала намнога бліжэйшая да ствала і парасткаў.

Хлопчык не разумеў, што гэта за нітачкі, і паглядзеў на маці.

— Гэта, сынок, старая ракіта пусціла ў зямлю карэньчыкі для сваіх парасткаў... І глядзі, глядзі!—радасна ўсклікнула маці. — Глядзі, сынок, на парастках выскачылі новыя лісткі. Парасткі за ноч падраслі!

Маці пагладзіла хлопчыка па галоўцы і, распраўляючы заломаны ветрам лісток на бліжэйшым парастку, дадала:

— Вось як, сынок, трэба змагацца за жыццё! Вось як трэба цягнуцца ўвысь!

— Да сонца? — спытаў хлопчык.

— Да сонца! — адказала маці.





# А КАЛІ ФАКТЫЧНА...

**Нам работнікам тэатра, часам здаецца, што тэатразнаўцы і рэцэнзенты маюць шчаслівую магчымасць вольна абыходзіцца з фактамі, бо колькасць чытачоў іх кніг, рэцэнзій, нататак інфармацый значна большая за колькасць гледачоў, якія бываюць сведкамі і «саўдзельнікамі» спектакляў. Нас радуюць выступленні ў друку, дзе перадаюцца атмасфера і сапраўднае становішча на сцэне ў часе спектакля. Засмучае, калі аўтар не правярае папярэдне матэрыялы, піша прыблізна, а то і наогул блытае імёны падзеі, даты...**

Разгортваю кнігу кандыдата мастацтвазнаўства Т. Барысавай «Мальер на беларускай сцэне». Ёсць у ёй і старонкі, прысвечаныя спектаклю «Лекар мімаволі», які мне давялося ўпершыню паставіць на сцэне Другога БДТ (цяпер тэатр імя Я. Коласа). Я ўдзячны аўтару за добрыя словы пра выканаўцаў ролей і рэжысуру. Але мяне бянтэжыць, чаму Т. Барысава называе выканаўцай ролі Люсінды актрысу М. Бялінскую, калі ў перадваенныя гады Люсінду іграла артыстка Яўгенія Краўчанка. Іграла цікава, была сапраўды «мальераўскай». Даследчыку варта было б расказаць пра такі артыстычны здабытак. Што датычыць М. Бялінскай, то яна была ўведзена ў спектакль значна пазней, у гады вайны. Але аўтар кнігі чамусьці прыпісвае ёй тое, што было знойдзена на рэпетыцыях і замацавана ў якасці «малюнка вобраза» рэжысурай разам з Я. Краўчанкай? Зразумела, у М. Бялінскай больш заслуг перад тэатрам. Але наўрад ці яна будзе задаволена, калі, прачытаўшы старонкі пра выкананне ролі Люсінды, прыгадае сапраўдныя факты нядаўняй гісторыі.

Крыўдна робіцца за паважанага даследчыка, які так несправядліва размяркоўвае кампліменты ў сваёй увогуле змястоўнай кнізе.

Або разгортваю газету «Літаратура і мастацтва» за 6 кастрычніка г. г., чытаю артыкул аспіранта Інстытута мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі АН БССР Г. Волчака пра ігру народнага артыста рэспублікі А. Труса ў нашым спектаклі «Свой востраў». Ёсць там такі сказ: «Так «пачынае» А. Трус свайго героя, каб потым паступова паказаць складаны і зусім своеасаблівы характар...». Але ж на самай справе «так» пачынаецца роля Рыйпса ў п'есе Р. Каўгвера. Спектакль пачынаецца са сцэны ў шахце, а не ў інтэрнаце, як напісаў Г. Волчак: там ён размаўляе з маладымі рабочымі пра новы спосаб здабычы сланца, пра адносіны чалавека да працы. Аўтар артыкула, акрамя таго, што ён аспірант навуковай установы, яшчэ і артыст нашага тэатра. Ён можа паглядзець спектакль не адзін раз. Калі б ён гэта зрабіў, то заўважыў бы, што сапраўды вялікі майстар сцэны А. Трус у гэтым спектаклі іграе ніжэй сваіх магчымасцей. На рэпетыцыях яго работа вымагала сур'ёзнай карэктуры з боку рэжысуры. З таго, што напісаў Г. Волчак, вынікае, быццам і тое добрае, чаго дасягае артыст, ён знайшоў самастойна, насуперак рэжысёрскай задуме.

Дзіўна атрымліваецца. Будучы тэатразнаўца напачатку сваёй даследчай працы ў галіне сцэнічнага мастацтва дазваляе сабе зусім вольнае абыходжанне з фактамі!

Або яшчэ возьмем рэпліку з нумара «Літаратуры і мастацтва» 13 кастрычніка г. г. пад назвай «Спектакль скончыўся — спектакль працягваецца». Аўтар, які схаваўся пад ініцыяламі «В. І.», увогуле даволі слушна выказвае свае меркаванні адносна часамі празмерна прыгожых і па-рэжысёрску падрабязна распрацаваных паклонаў артыстаў на апладысменты гледачоў пасля заканчэння спектакля. Што ж, у кожным асобным выпадку, відаць, трэба знаходзіць суладдзе паміж зместам і пафасам спектакля і тэатральнымі «дадаткамі» да яго. Тут з «В. І.» згаджаешся. Але ён у якасці прыкладу такога дадатку спасылаецца і на спектакль тэатра імя Я. Коласа «Багна». Ставіў гэты спектакль я. Сапраўды, на першых прадстаўленнях, як гэта стала традыцыйным, на апладысменты публікі выходзілі ўсе артысты, занятыя ў гэтым спектаклі. Пазней «фінал» відовішча прыняў звычайны характар. Аднак аўтар бачыў, мабыць, толькі першыя прадстаўленні і на падставе сваіх уражанняў вінаваціць тэатр у тым, чаго фактычна на сцэне цяпер няма.

Зноў жа неяк няёмка атрымліваецца.

...Хтосьці можа сказаць, што я чапляюся за дробязі. Але як на сцэне, так і ў друкаваных матэрыялах пра сцэну, дробязей накшталт названых мною вышэй памылак, не павінна быць. Думаецца, што са мной пагодзяцца і Т. Барысава, і Г. Волчак, і «В. І.». Яны ж не менш за нас, работнікаў тэатра, шануюць мастацтва.

**С. КАЗІМІРОЎСКІ,**
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, галоўны рэжысёр тэатра імя Я. Коласа.

Віцебск.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



*Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа на пачатку сёлетняга сезона паказаў прэм'еру — камедыю Н. Думбадзе «Не трывожся, мама!..» (пераклад на беларускую мову. Г. Бураўкіна). Віцябляне цёпла прынялі спектакль, які паставіў рэжысёр Б. Эрын у дэкарацыях, зробленых па эскізах народнага мастака БССР Я. Нікалаева.*

*На здымку — сцэна са спектакля. У ролі Тэймураза Джакелі артыст П. Ламан, у ролі Даду — Г. Дзягілева.*

Фота С. КОХАНА.

# З ТВОРЧЫМ УЗДЫМАМ

*Расказвае дырэктар Гомельскага абласнога тэатра Т. КАРПАВА*

— Поспехі і творчыя здабыткі тэатра адзначаны прысуджэннем калектыву пераходнага Чырвонага Сцяга ВЦСПС і Міністэрства культуры СССР за лепшыя паказчыкі ў культурна-шэфскай рабоце на вёсцы (з уручэннем першай грашовай прэміі) і пераходнага Чырвонага Сцяга з такой самай прэміяй Міністэрства культуры СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры па выніках усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва тэатральна-канцэртных калектываў краіны. За 9 месяцаў сёлета на нашых спектаклях пабывала 207 тысяч гледачоў (план — 170 тысяч). На вёсцы мы далі 136 спектакляў. Пасля летніх гастроляў у Бранску, у ліпені і жніўні, тэатр выступаў у калгасах і саўгасах Калінкавіцкага, Петрыкаўскага, Нараўлянскага, Мазырскага, Буда-Кашалёўскага, Чачэрскага, Кармянскага, Хойніцкага, Лоеўскага, Брагінскага, Рагачоўскага і іншых раёнаў вобласці. Паказвалі тры спектаклі: «Хвалі над намі» Л. Сінельнікава, «Саслужыўцы» Э. Брагінскага і Э. Разанава і «Дзіўны доктар» А. Сафронава.

Пачынаем новы сезон з добрым творчым уздымам.

Рэпертуарныя навінкі такія — «Не трывожся, мама!..» Н. Думбадзе, «Амазонкі» А. Дзялендзіка (у гэтым спектаклі дэбютуюць на прафесійнай сцэне маладыя выхаванцы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Ул. Карака, Л. Міроненка і А. Шаўчэнка), «Даходнае месца» А. Астроўскага, «Два клёны» Яўг. Шварца...

Калектыў замацоўвае творчыя сувязі з беларускімі драматургамі. На афішы гамяльчан—імёны А. Макаёнка, А. Маўзона, А. Махнача, А. Дзялендзіка. Чакаем ад іх і новыя творы, прысвечаныя надзённым тэмам жыцця і працы савецкіх людзей.

Да свята 50-годдзя ўтварэння СССР разам з прэм'ерамі паказваем і лепшыя пастаноўкі мінулых сезонаў. У прыватнасці, драму Л. Ляонава «Залатая карэта», п'есу А. Маўзона «Толькі адно жыццё» (за гэтыя рэжысёрскія работы народны артыст БССР І. Папоў сёлета вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі рэспублікі), «Добры дзень, Крымаў!» Р. Назарава і іншыя.

Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# У ВОДСВЕЦЕ СОНЦА І ШЧЫТА

*«У НОЧ ЗАЦЬМЕННЯ МЕСЯЦА» М. КАРЫМА НА СЦЭНЕ ТЭАТРА ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ*

ГЛЕДАЧЫ, пераступіўшы парог тэатральнай залы, адразу ж трапляюць у атмасферу падзей, адлюстраваных у драме башкірскага паэта Мустая Карыма.

Сцэна адкрытая. Пасярэдзіне, там, дзе павінна быць заслона,—шчыт. Вялізны, каваны шчыт, які спускаецца зверху на цяжкіх, груваcткіх ланцугах. Уверсе — шэрае, неспакойнае неба, якое абяцае віхуры, буру. А ўнізе —зямля, скрозь пабітая раўчукамі, ярамі. Па баках жа, на спецыяльна створаных кулісах, сілуэты коней. На змрочна-чырвоным, трывожным фоне —цэлыя табуны коней. Яны пакуль застыглыя, статычныя. Такімі, зрэшты, астануцца яны і на працягу ўсяго спектакля—коні ж толькі малёваныя. Але з разгортваннем падзей і яны, гэтыя застыглыя, статычныя коні, нібы ажывуць, прыйдуць у рух. Яны паўстануць усё ў новым і новым святле—то ў светлым, вясновым, то ў халоднa-змрочным, начным.

**Дзесьці там, за сцэнай, будзе чуцца іх імклівы тупат. То адзін коннік, не спыніўшыся, праімчыцца далей, то другі, трэці. А тут, на сцэне, героі «У ноч зацьмення месяца», сабраўшыся разам, прыціснуўшыся адзін да аднаго, з надзеяй і заміраннем у сэрцы будуць чакаць, што вось-вось спыніцца адзін наезнік — вернецца з вайны сын. Але коні ўсё праносяцца міма. І толькі недзе пазней, калі праедуць іншыя сыны, запыніцца ганец, каб перадаць хустачку з зямлёй з магілы, дзе пахаваны той, каго тут так чакалі.**

**Але ўсё гэта адбудзецца пазней, калі спектакль пачне набіраць трагедыйны разгон. Цяпер жа шчыт пасунуўся назад, у глыбіню сцэны, як бы саступаючы сваё месца героям «У ноч зацьмення месяца», вызваляючы акцёрам пляцоўку для ігры.**

Адразу ж выбег на сцэну Ак'ягет, сярэдні сын Танкабіке, з нянавісцю штурхануў у шчыт, гэты сімвал вайны, людскіх няшчасцяў, і той паддаўся жаданню і волі юнака. Шчыт павярнуўся і амаль у імгненне знік—на яго месцы ўспыхнула вясёлае, радасна-зіхатлівае сонца і зайграла сваімі промнямі. Ажылі суровыя стэпы...

З другога боку, насустрач Ак'ягету, выбегла Зубаржат, яго каханая, яго нарачоная. З'явілася ў асляпляльна белай сукенцы, з чырвонымі макамі ў руках. З'явілася, як вясна, як сонца, як мара. Так пачаўся спектакль. Пачаўся лірычным дуэтам двух закаханых, дуэтам узнёслым, глыбока паэтычным.

**І гэтаму паэтычна-ўзнёсламу дуэту, як і ўвогуле ўсяму эмацыянальнаму ладу спектакля, вельмі спрые глыбока паэтычны пераклад п'есы, зроблены Уладзімірам Караткевічам. Тут словы маюць сваю выразную экспрэсіўную афарбоўку, і слухаць іх са сцэны—проста асалода.**

**Праўда, не ўсе яшчэ акцёры валодаюць белым вершам, якім напісана п'еса Мустая Карыма, не для ўсіх ён пакуль стаў арганічны, родны. Для купалаўцаў сустрэча з драматычным творам, напісаным вершам, увогуле з'ява рэдкая і даволі нязвыклая. І вось гэтая нязвыкласць у некаторых выканаўцаў адчуваецца самым рашучым чынам, хоць тут жа трэба заўважыць, што авалоданне вершам ад спектакля да спектакля ідзе паспяхова.**

Вернемся, аднак, непасрэдна да сцэны, з якой пачаўся спектакль. Лірычны дуэт Ак'ягета і Зубаржат цягнецца нядоўга. На сцэне з'яўляюцца іншыя людзі, іншыя сілы, і тады цямнее вясенняе святло, нікнуць чырвоныя макі. Неба становіцца шэрым, неспакойным. А замест сонца зноў віднеецца цяжкі шчыт.

І так на працягу ўсёй пастаноўкі «У ноч зацьмення месяца». То шчыт падасца назад, перавернецца — і загараецца яркае сонца, промні якога трымцяць, рассыпаюцца ігрыстымі пырскамі, а суровы, напаўдзікі стэп усцілаецца агністымі макамі. То зноў замест сонца змрочны, страшны шчыт, і тады толькі мільгаюць чырванаватыя трывожныя водсветы, а парэзаны, пашматкаваны стэп здаецца цяпер асабліва непрыступным і небяспечным...

Чалавечая радасць і пякучы душэўны боль, сілы светлыя, узнёслыя і сілы змрочныя, дабро і зло. Гэта ў спектаклі вельмі часта перамяжаецца, утвараючы яго асабліва вірлівую, неспакойную плынь.

Пастаноўшчык Ц. Кандрашоў, мастак А. Грыгар'янц, кампазітар А. Янчанка вырашаюць спектакль рэзкімі, кантрастнымі фарбамі. І тут усе яны выступаюць заадно, дзейнічаюць у поўным суладдзі. Але сумесныя намаганні ў пастаноўцы рэалізуюцца неаднолькава.

**...Маладыя закаханыя Ак'ягет і Зубаржат, якіх даўно пасваталі—неўзабаве павінна ўжо адбыцца іх вяселле—як быццам і наблізіліся да свайго шчасця, але пераступіць яго парог так і не здолелі. Не судзіў лёс. На вайне загінуў старэйшы брат Ак'ягета, і ён цяпер павінен ажаніцца на яго жонцы Шафак. А Зубаржат, паколькі за яе ўжо заплачаны вялікі калым і гэты калым няма магчымасці вярнуць назад, аддадуць замуж за Ішмурзу, малалетняга брата Ак'ягета.**

Пастаноўшчык Ц. Кандрашоў (рэжысёрам выступае А. Андросік) усяляк—і гэта вельмі выразна чытаецца ў спектаклі—акцэнтуе ўвагу гледачоў на светлым, чыстым каханні маладых, падкрэслівае даволі магутны паэтычны струмень трагедыі «У ноч зацьмення месяца».

Але на шляху маладых да свайго шчасця паўсталі злыя, змрочныя сілы ў вобразах аксакалаў. Яны—носьбіты старога, жорсткага ўкладу бесчалавечных звычак—хочуць растаптаць каханне Ак'ягета і Зубаржат. А іх жа словы ў тыя даўнія часы лічыліся ледзьве не святымі, не выканаць іх было амаль немагчыма. Тым больш, што аксакалы не абмяжоўваюцца славамі і парадамі, а і пераходзяць да актыўных, рашучых дзеянняў. Фактычна, ідуць у наступленне. Да трох ак-

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# «ПАДРЫХТУЙЦЕСЯ: ВАШ ВЫХАД...»

**АКТРЫСЕ ТАЦЦЯНЕ БАНДАРЧЫК — 70 ГАДОЎ**



Год 1972.

Лёс артыстаў падобны на зоркі... Адны з іх, успыхнуўшы бліскучым полымем, нечакана гаснуць да часу... Другія ззяюць ярка і роўна ўсё сваё доўгае жыццё... Трэція, можа менш яркія і бліскучыя, таксама пасылаюць сваё святло людзям... Святло мяккае і цёплае... І няхай яны меншыя па велічыні, чым другія зоркі, але без іх сузор'е будзе няпоўным, незакончаным...

Так і ў мастацтве... Прыгадваю творчы лёс артысткі Таццяны Андрэеўны Бандарчык. Лёс няроўны, складаны, са сваімі бедамі і радасцямі, творчымі няўдачамі і набыткамі... Лёс амаль тыповы для кожнага мастака, які па-сапраўднаму творча, патрабавальна ставіцца да справы, якой прысвяціў усё сваё жыццё. Таццяна Андрэеўна Бандарчык — актрыса з плеяды нашых беларускіх «магікан», якія пачыналі тэатральную справу ў рэспубліцы...

**Нарадзілася яна ў мэстэчку Дукора ў беднай сялянскай сям'і. Бацькі дзяўчынкі былі людзі простыя, але мудрыя тым адвечным народным розумам, які так уласцівы сялянам. Успамінаючы мінулае, Таццяна Андрэеўна прыгадвае: «Маці, апрача звычайнага, добра прала, ткала, вышывала, вязала карункі. Бацька быў тым чалавекам, пра якога гавораць «у яго залатыя рукі». Што ні возьмецца зрабіць—бочкі, цэбры, граблі, вілы, верацёны,—адным словам, усё, што патрэбна ў хаце ці каля хаты,—зробіць «на першы гатунак». Яшчэ зусім малая, гадоў шасці, выпрасіла-выплакала, каб бацька зрабіў мне праснічку. Зрабіў. І верацёнцы малыя вытачыў, і ўзор выпаліў на іх. Радасці маёй не было канца. Цяпер я разам з дарослымі магла сядзець вечарамі і прасці...».**

Напэўна на гэтых вячорках і палюбіла Таня меладычную, чароўную беларускую песню і прызвычаілася спяваць сама.

У 1916 годзе, калі Тані споўнілася 14 год, бацькі выпраўляюць дачку вучыцца ў Барысаўскую жаночую настаўніцкую семінарыю. Перад дзяўчынкай адкрываецца новае, захапляюча цікавае жыццё. Найбольшае ўражанне пакідаюць урокі гісторыі. Грэцыя і Рым, Вавілон і Егіпет... Яркае, як промні сонца, мастацтва эпохі Адраджэння... Усё гэта хвалявала, трывожыла фантазію, будзіла мары... Аднойчы завітала да дзядзькі ў Мінск і трапіла на спектакль Першага таварыства беларускай драмы і камедыі «Паўлінка». Ігра артыстаў, цудоўны купалаўскі твор, меладычныя песні, танцы захапілі дзяўчынку. Асабліва ж уразіла тое, што размаўлялі артысты на беларускай мове, той «мужыцкай» мове, якая старанна «выкарчоўвалася» ў семінарыі. Як адзначае сама Т. Бандарчык, з гэтага дня пачалася яе... «пагібель».

**У канцы 1920 года на настаўніцкіх курсах у Бабруйску яна стварыла драматычны гурток «Крыніца». Гуртkоўцы паставілі «Паўлінку». Таня была рэжысёрам спектакля і выканаўцай галоўнай ролі. Успаміны дзяцінства, знаёмы побыт—усё было вельмі блізкае і не патрабавала асаблівага майстэрства, сцэнічнага вопыту. Да таго ж добрае адчуванне народнай музыкі, нядрэнны голас, прыродны гумар зрабілі яе гераіню прывабнай і абаяльнай. Чуткі пра дукорскую «артыстку» дайшлі да Ф. Ждановіча, які ўзначальваў трупу Беларускага дзяржаўнага тэатра, і Таню запрасілі на работу ў БДТ у Мінск.**

**Так пачалося прафесійнае жыццё ў тэатры...**

Маладая актрыса іграла ў купалаўскай «Паўлінцы», у «Ганцы» Ул. Галубка. Работа з такімі майстрамі сцэны, як Антук Крыніца, Генрых Грыгоніс, Усевалад Фальскі, Кацярына Міронава, многа дала маладой артыстцы. Але асабліва выразна паўстае пытанне аб неабходнасці вучыцца. Таму, калі ў 1921 годзе ў Маскве адкрываецца беларуская студыя, яна з вялікай радасцю едзе ў сталіцу.

Заняткі з С. Гіяцынтавай, В. Смышляевым, І. Меерхольд, Б. Афоніным прымусілі на многае зірнуць па-новаму. Пачалася праца, штодзённая карпатлівая праца.

У канцы 1926 года студыйцы ад'язджаюць у Віцебск, дзе на базе іх курса быў створаны Другі беларускі драматычны тэатр. Рэпертуар яго складалі спектаклі, пастаўленыя ў час навучання ў Маскве. Т. Бандарчык выконвала Смерць у «Цары Максіміліяне», Алену ў «Сне ў летнюю ноч» Шэкспіра, Лілею ў «Апраметнай»

сакалаў, гэтых старэйшын, мясцовых мудрацоў, далучыўся і Дэрвіш, які ўсё жыццё прывык грэцца ля чужога вогнішча. Цяпер жа, напаткаўшы чалавечае няшчасце, ён хоча вырваць для сябе вялікі кавалак і кідаецца рваць яго з лютасцю звера.

Усе гэтыя персанажы і складаюць сілу, прытым сілу моцную, драпежную. Менавіта з-за іх учыняецца несправядлівасць, рушацца светлыя мроі, з-за іх людзей напаткоўваюць катастрофы.

Гэта, аднак, гаворка тычыцца толькі драматычнага твора. У спектаклі ж такой змрочнай, страшнай па сваёй сутнасці сілы мы не напаткалі. Не сустрэлі амаль увогуле ніякай сілы.



Сцэна са спектакля. У ролі Танкабіке — народная артыстка БССР Г. Макарава, Шафак — заслужаная артыстка БССР Л. Давідовіч.

**У. Кудрэвіч, які выступае ў ролі Першага аксакала, С. Бірыла, які грае ролю Другога аксакала, і А. Луцэвіч, які выконвае ролю Трэцяга аксакала, відаць, шмат папрацавалі над вонкавымі воблікамі сваіх персанажаў. Не бяруся меркаваць, наколькі дакладна, калі браць тых канкрэтных людзей з п'есы, удалося артыстам перадаць іх знешнія воблікі, іх традыцыйна-абрадавыя рухі і жэсты. Ахвотна пагаджаюся на тым, што вельмі дакладна, ва ўсім адпаведна. Ва ўсялякім разе, фігуры аксакалаў выйшлі ў спектаклі каларытнымі. Але, на жаль, далей вонкавай характарнасці і каларытнасці справа не пайшла. І таму ўнутрана яны атрымаліся даволі інертныя і пустыя. Не ўяўляе ў пастаноўцы сур'ёзнай і па-звярынаму страшнай сілы і Дэрвіш, вобраз якога стварае П. Дубашынскі. Ён, як і аксакалы, атрымаўся здробненым, у асобных сцэнах выглядае нават бязвольным і нерашучым.**

І ў выніку ўсяго гэтага злая воля і магутная ўлада тых, з-за каго рушыцца чалавечае шчасце, адбываюцца трагедыі, выяўляецца ў пастаноўцы купалаўцаў больш намінальна, чым рэальна. І гэта—вельмі адчувальная страта спектакля.

Затое людзі, якія супрацьпастаўлены, прытым менавіта кантрастна супрацьпастаўлены старому, аджытаму ўкладу жыцця, дзікім, бесчалавечным правілам і законам, у асноўным атрымаліся яркімі, духоўна багатымі і значнымі.

Гэта, у прыватнасці, тычыцца Ак'ягета Ю. Авяр'янава, які спектаклем «У ноч зацьмення месяца» дэбютаваў на купалаўскай сцэне. Ён узнёслы, вельмі паэтычны і вялікае каханне свайго героя да Зубаржат перадае з душэўным хваляваннем. Шкада, што вось такога ўнутранага хвалявання часам нестае А. Ельяшэвіч, якая выконвае ролю Зубаржат.

Дарэчы, і ігра Ю. Авяр'янава не вызначаецца роўнасцю. Бываюць спектаклі, калі артыст выходзіць на сцэну, што называецца, «без агеньчыку», праводзіць ролю без унутранай напоўненасці, даволі аднастайна. І, прызнацца, такая акалічнасць выклікае заклапочанасць і непакой за маладога, фактычна толькі яшчэ пачынаючага артыста.

У гэтым сэнсе добры прыклад яму, ды і некаторым іншым, падае Л. Давідовіч, якая ўвасабляе вобраз Шафак. Яе акцёрская работа—адна з лепшых і найбольш тонкіх у спектаклі. А выканаўца не спыняецца на дасягнутым, і вобраз Шафак ад спектакля да спектакля не толькі не блякне, а і становіцца яшчэ больш яркі, яшчэ больш шматфарбны.

Г. Макарава, якая іграе ў спектаклі ролю Танкабіке,—артыстка вельмі каларытная, зямная і, бадай, больш за ўсё адчувае стыхію бытавой камедыі. Нават у вобраз башкірскай жанчыны Танкабіке Г. Макарава прыўносіць нацыянальнае, беларускае, сваё. Але яна падкрэслівае толькі адну грань яе характару—вялікую волю, уладарніцтва, самалюбства.

**Адзначаючы каларытнасць фігуры Танкабіке на купалаўскай сцэне, усю яе непаўторнасць, нельга, аднак, не заўважыць і таго, што яна атрымалася ўсё ж некалькі адназначная. Гэтая гераіня нібы і нарадзілася для дзікіх стэпаў, для іх буйнай, неўтаймаванай стыхіі. Сама яна — увасабленне жалезнай волі, напорыстасці, улады. Паказваючы страшную, дзікую, амаль безразважную дэспатычнасць Танкабіке, артыстка заглушае, а нярэдка і зусім прымушае маўчаць іншыя душэўныя струны гераіні. У прыватнасці, у вобразе амаль не раскрывае тэму маці, якая глыбока перажывае і пакутуе за сваіх дзяцей.**

**Толькі ў апошнім. трэцім акце, Танкабіке ў Г. Макаравай іншая. І настолькі іншая, што нібы яе зусім падмянілі. Няма цяпер уладарных, валявых рухаў і жэстаў, рукі, што называецца, самі апускаюцца, усё з іх валіцца. Танкабіке, мабыць, зразумела, нутром сваім адчула няўхільнасць і непазбежнасць трагічнай развязкі. Але ўсё ж і цяпер не вельмі ёй спачуваеш—такі чалавек перш-наперш вінаваты сам. І ён таксама заслугоўвае пакарання.**

Нядаўна выступіла ў спектаклі і другая выканаўца гэтай ролі—М. Захарэвіч. На першым прадстаўленні заўважалася некаторая няўпэўненасць і нават разгубленасць актрысы. Вобраз, як кажуць, пакуль яшчэ ў творчым росце, у развіцці. Але і цяпер ужо можна гаварыць аб вельмі прыкметных зменах, якія адбываюцца ў спектаклі з прыходам М. Захарэвіч.

Яе гераіня з'явілася на сцэну, як і ў першай выканаўцы, з плёткай у руках. Аднак толькі ўпачатку, усяго адзін раз ёю ўзмахнула, ды і то рука тут жа паволі і бязвольна апусцілася ўніз. Так і засталася гэтая плётка ў Танкабіке толькі пэўнай адзнакай, бытавой дэталлю, якая да таго ж вельмі мала пасуе да вобліку і тым больш да характару гэтай жанчыны.

**Танкабіке М. Захарэвіч — перш за ўсё добрая, душэўна тонкая і вельмі чулая маці. Але як чалавек яна даволі слабы, бязвольны. Тыя суровыя законы, якія пануюць у гэтых стэпах, не па яе кволых плячах, не па яе сіле. Яна не можа ім супрацьстаяць, не можа з імі змагацца. Гераіня разумее гэта і вельмі-вельмі пакутуе. Тая адплата, якая чакае Танкабіке Г. Макаравай,—гэта адплата за яе жорсткасць, за яе ўладалюбства. Гераіню ж М. Захарэвіч чакае адплата за бяссілле, за бязволле. І да яе нельга не ставіцца са спачуваннем. Актрыса М. Захарэвіч прыносіць у спектакль большы драматычны падтэкст. Прыносіць і нейкую асаблівую трапяткую ўсхваляванасць. І ў выніку — трагічныя падзеі гучаць мацней, з большай эмацыянальнай сілай.**

...Вось юродзівы Дзівана, які вельмі чуйны да чалавечага дабра і справядлівасці і гэтак жа чуйны да любой няпраўды і фальшу (акцёр А. Мазлоўскі стварае закончаны па сваёй цэласнасці вобраз, кожнае з'яўленне яго героя —гэта нібы подых самой трагедыі), ў недаўменні і роспачы выскачыў на сцэну. Нешта здарылася незвычайнае, адваліўся кавалак месяца. Узбуджаныя, гнеўныя выйшлі на сцэну аксакалы. Зацьменне месяца—гэта, маўляў, прадвесце кары людзей, што яны не падпарадкоўваюцца традыцыі, законам, не падпарадкоўваюцца іх, аксакалаў, жаданню і волі. І пачынаюць «ратаваць» ад бяды чалавецтва, здзяйсняць над Ак'ягетам і Зубаржат суд за тое, што яны, насуперак усяму, кахаюцца, не могуць адзін без аднаго жыць.

Танкабіке кідаецца да дзяцей, хоча ўгаварыць іх, упрасіць пакарыцца ўладзе традыцый і законаў. Але яны непахісныя ў сваёй рашучасці...

**Гордыя і нязломныя, яны выправіліся ў дарогу, якая, відаць, стане іх апошнім шляхам. За імі ў святочным, урачыстым убранні па добрай волі пайшла на смерць і Шафак. Накіраваўся туды і Ялсыгул. Дзівана на нейкі час прыпыніўся ля Танкабіке, паглядзеў на яе з дакорам і спачуваннем. Потым зняў са сваёй рукі бранзалет, які больш нагадвае бразготку, аддаў Танкабіке, а сам імкліва накіраваўся за іншымі, туды, у стэп, дзе падпільноўвае смерць.**

Танкабіке, абяссіленая, уся знямелая, засталася з гэтай бессэнсоўнай бразготкай. Засталася асуджанай на вечнае адзіноцтва...

Так канчаецца спектакль «У ноч зацьмення месяца» на купалаўскай сцэне, спектакль цэласны па сваёй задуме, хоць яшчэ і не роўны па акцёрскім выкананні. Ён хвалюе сваім трагізмам, чыстымі, высакароднымі пачуццямі.

---

## ГОДЫ І РОЛІ

В. Шашалевіча, дзяўчынку ў «Эрасе і Псіхеі» Жулаўскага, карыфея ў «Вакханках» Эўрыпіда. Ужо ў гэтых першых ролях яна праявіла свае здольнасці таленавітай характарнай актрысы. Высокая, ладная, вельмі рытмічная, з меладычным, прыгожым голасам. Яна вабіла пластыкай рухаў у «Эрасе і Псіхеі», была кавачна-экзатычнай у «Апраметнай», узрушана-тэмпераментнай у «Сне ў летнюю ноч».

Тэатр — гэта тэатр... Не заўсёды акцёр іграе, што хоча ці аб чым марыць, а часцей тое, што патрэбна для тэатра, спектакля...

**Т. Бандарчык можна характарызаваць як майстра сцэнічнага эпізода. Яна заўсёды імкнулася знайсці рысы тыповасці, унутраную апраўданасць нават у невялікіх па памерах ролях. Прычым уласцівая ёй арганічнасць прыходзіла ў працэсе глыбокага пранікнення ў псіхалогію, характар вобраза. Прыгадаю два эпізоды з творчага жыцця актрысы. У п'есе «Адважны баязлівец» І. Штока і А. Смаляна яна іграла дзяўчыну-парашутыстку. Па ходзе дзеяння ёй трэба было выйсці на сцэну, падцягваючы стропы парашута. У часе падрыхтоўкі спектакля актрыса стала пастаяннай наведвальніцай авіяклуба і дакладна вывучыла канструкцыю парашута. Ці жанчына-сакратар у спектаклі «Чалавек з ружжом» М. Пагодзіна... Гэтая роля была наогул без слоў, але Таццяна Андрэеўна адчувала вялікую адказнасць — яна ж іграла сакратара У. І. Леніна! Артыстка прагледзела вялікую колькасць матэрыялаў аб жанчынах-рэвалюцыянерках, якія мужна змагаліся ў гераічныя і суровыя 1905 і 1917 гады. І вобраз стварыла яркі, пераканаўчы.**

**Дзякуючы вялікай працаздольнасці, патрабавальнасці да сябе, створаныя артысткай вобразы цёткі Мар'і ў «Любові Яравой» К. Трэнёва, Забуновай у спектаклі «Ягор Булычоў і іншыя» М. Горкага, унтэр-афіцэрскай удавы ў гогалеўскім «Рэвізоры» і вылучаліся яркім сцэнічным малюнкам, акрэсленым характарам.**

Асаблівае месца ў творчай біяграфіі Т. Бандарчык займаюць вобразы простых беларускіх жанчын з народа. Часам добразычлівыя і сціплыя, часам задзірлівыя і крыклівыя, яе гераіні заўсёды былі тыповымі, нібы ўзятымі з навакольнага жыцця. Вобразы бабкі Таццяны («Вайна вайне») і Насты («У пушчах Палесся» Я. Коласа), Сцепаніды («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), маці Ірынкі («Ірынка» К. Чорнага), жабрачкі («Над Бярозай-ракой» П. Глебкі) прываблівалі глыбокай народнасцю, каларытнымі шматграннымі характарамі. Адной з найбольш арыгінальных работ такога плану была Паланея ў «Прымаках» Я. Купалы.

Але, бадай, самай цікавай работай з рэпертуару актрысы была Таццяна ў горкаўскіх «Мяшчанах».

...Каханне да Ніла акрыляе дзяўчыну, надае ёй веры ў будучыню, дапамагае мірыцца з безвыходна тужлівым, аднастайным жыццём у бацькоўскім доме. У сіняй сукенцы з белым каўнерыкам, у светлых боціках, з прыгожай белай хусткай на плячах, добра прычасаная, яна здаецца прамяніста-светлай і нават прыгожай у першай дзеі спектакля. Кульмінацыяй развіцця вобраза была сцэна размовы Таццяны з Нілам. Гордая і самаўлюбёная, яна амаль адкрываецца Нілу ў сваіх пачуццях. Яе словы гучаць двухсэнсова, але гэта фактычнае прызнанне. Ніл добра разумее дзяўчыну і пераводзіць гаворку на іншае. Таццяне крыўдна і балюча. Яна не спыняецца нават перад знявагай і падслухоўвае размову Ніла і Полі. Таня страчвае апошнюю надзею...

— Мне няма дзе, няма чым, няма чаго жыць. Я не ведаю, з чаго я так стамілася,—гаворыць яна, і ў яе голасе гучыць туга і сум, сапраўдная стомленасць ад людзей і жыцця.

У апошнім акце перад гледачом паўставала зусім іншая жанчына. Гладка прычасаная, у простай шэрай кофце яна выглядае значна старэй сваіх год. Згаслыя вочы, павольныя змярцвелыя рухі, невыразны глухі голас—усё гаварыла аб той змене, якая адбылася ў яе гераіні.

— Мне сапраўды здаецца, што я нейкая паўзучая расліна ў вас пад нагамі... ні красы ва мне, ні радасці... а ісці людзям я перашкаджаю... чапляюся за іх...—вымаўляла Таццяна Бандарчык, і гэтая фраза, сагрэтая трапяткім сэрцам выканаўцы, перадавала жудаснае адзіноцтва дзяўчыны, якая так і не здолела знайсці свой шлях у жыцці, страшэнную безвыходнасць яе трагічнага лёсу. Карыстаючыся скупымі сродкамі выразнасці, актрыса імкнулася пазбегнуць меладраматызму. І ў асобных сцэнах, асабліва ў фінале спектакля, у яе выкананні гучалі сапраўды трагічныя ноты, выклікаючы ў гледача не толькі асуджэнне, але і спачуванне.

**...Гэта натура належыць да той пароды неспакойных людзей, якіх не кранае няўмольны час. Заўсёды вельмі патрабавальная да ўсяго, чым яна займалася, актрыса многа зрабіла, каб захаваць у вайну матэрыялы аб тэатры імя Якуба Коласа. Яшчэ ў 1935 годзе яе прызначылі адказнай за бібліятэку і архіў тэатра. Добрасумленна, аддана артыстка збірала фота, эскізы, партытуры музыкі, рэцэнзіі і артыкулы. Ёю былі складзены сем альбомаў, дзе падрабязна расказвалася пра кожную новую прэм'еру. У цяжкія доўгія гады вайны Таццяна Андрэеўна здолела захаваць гэтыя альбомы. Адмаўляючы сабе, магчыма, у самых неабходных рэчах, яна вазіла дакументы з сабой і пасля вайны перадала іх у бібліятэку імя У. І. Леніна. Матэрыялы Т. Бандарчык набылі асаблівую каштоўнасць, бо ўвесь астатні архіў тэатра загінуў. Не адзін тэатразнаўца, літаратуразнаўца ці тэатральны крытык, які займаецца гісторыяй тэатральнага мастацтва Беларусі, з удзячнасцю ўспамінае Таццяну Андрэеўну, калі карыстаецца яе альбомамі.**

**Яе ўспаміны пра БДТ-1, пра беларускую студыю ў Маскве, пра дзейнасць франтавой брыгады БДТ-ІІ не толькі цікавыя і дасканалыя па сваіх мастацкіх якасцях, але і вельмі карысныя, бо адкрываюць нашым сучаснікам новыя і новыя падрабязнасці далёкага мінулага — перыяду станаўлення беларускага прафесійнага тэатральнага мастацтва.**

Акцёра вельмі хвалюе голас памочніка рэжысёра, які ў часе спектакля папярэджвае «Рыхтуйцеся: ваш выхад...» І што б ён там ні рабіў—на кінастудыі (Т. Бандарчык нядаўна здымалася ў фільме «Руіны страляюць...»), у асяроддзі маладых калег, за пісьмовым сталом,—ён заўсёды чуе гэты голас, гэты заклік.

Зорка Таццяны Андрэеўны Бандарчык сціпла і мякка свеціць людзям, саграваючы іх сваёй пяшчотнасцю і цеплынёй.

**Тамара ГАРОБЧАНКА.**



Год 1937. Бабка Наста («У пушчах Палесся» Я. Коласа).



Год 1958. Ксенія Булычова («Ягор Булычоў і іншыя» М. Горкага).



Год 1959. Скуратовічыха («Уласнасць» паводле «Трэцяга пакалення» К. Чорнага).

**ПРАЦОЎНЫЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ КРАІН! ЗМАГАЙЦЕСЯ ЗА УМАЦАВАННЕ ДРУЖБЫ І АДЗІНСТВА, ЗА ДАЛЕЙШАЕ РАЗВІЦЦЁ БРАЦКІХ УЗАЕМААДНОСІН! БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫМІ ДА ПАДКОПАЎ ВОРАГАЎ САЦЫЯЛІЗМУ!**
**ВЫШЭЙ СЦЯГ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ!**

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС.

# ІШЛІ ДА СОНЦА ЛЮДЗІ...

*Са славацкай паэзіі*

*Славакія! Край далін і гор, букавых гаёў і смалістых бароў, край неабсяжных лугоў і зялёных вінаградных плантацый. Працавітасцю і мужнасцю славіцца славацкі народ, які адстаяў сваю незалежнасць і будуе сацыялізм.*

*Славакія — гэта яшчэ і песня, якая не ўмірала пад векавым прыгнётам іншаземных захопнікаў і, вольная, цяпер гучыць з новай сілай.*

*Прапануем увазе чытачоў вершы сучасных славацкіх паэтаў.*



Андрэй ПЛАЎКА



## ПАЦАЛУНАК І СЛЯЗА

Ізноўку год жыцця мяне
пакінуў,
як птах у лістападаўскай імжы,
узмахваючы крыламі
ўспамінаў —
а ты пакутуй, думай і тужы.

Вяртаешся ў знаёмыя мясціны,
што ад любві тваёй цвілі не
раз.
Сюды ў асеннім золаце
сцяжыны
Заўжды цябе вядуць у гэты
час.
Вось тут прыняў пад свой
зялёны парус
цябе з каханнем явар малады.
Паслухай, як на голых струнах
зараз
зайграе песню смутку і нуды.

Арэх тваіх цнатлівых
пацалункаў,
што прад табой здалёку
паўстае,
зіме пасцеле прасціну
лятункаў,
каб легла каралевай у яе.

Лаза, якая вінаград трымала,
свой плод салодкі аддала
даўно,
табе гаворыць: дапівай памалу
з бакала гаркаватае віно.

І ты цяпер з пранізлівай
журбою
хапаеш вецер зменлівы, як лёс.
Ах, восень! Што забрала ты з
сабою —
смак пацалункаў ці гаркоту
слёз?

## СПЕЛАСЦЬ

Ах, і восень — залатое дзіва,
Выспявання дар,
Яблыкам румяным сарамліва
Палымнее твар.
Завітала з гэткай шчодрай
ношай
Рана на зары,
Нібы маку, натрусіла грошай—
Паспрабуй збяры.

І здаля цябе зачаравала
Звабнасцю вачэй.
Не марудзь жа, чуеш, часу
мала,
Пакаштуй хутчэй.
Кавуны тапырацца з-пад блузкі,
Кроў стукоча ў скронь.
Для арэха кошык вельмі
вузкі—
Падстаўляй далонь.

Слодыч губ — у гронках
вінаграда,
Косы распляла,
Легла ў ложак у зацішку сада
Радугай святла.

Пераклаў Пятрусь МАКАЛЬ.

Лаца НАВАМЕСКІ



## СЛАВАЦКАЯ ВЯСНА

Загон зямлі ўзараў — і ў гэтым
яго мудрасць,
У драме нашых дзей рэфрэн
забыты.
Са сцэны хлебароб пазней за
ўсіх нас сыдзе
З паклонам нізкім, як сцяблінка
жыта.

Народы гінулі і рушыліся
царствы,
А ён, як волат, ходзіць па
загоне,
Надзённы сее хлеб — і ў гэтым
яго мудрасць,
Што зерне прарасце і коласам
зазвоніць.

Ян ПАНІЧАН



## АРАТЫЯ

Трохдзённы бой на золку сціх.
На міг спынілася дыханне:
Я ўбачыў постаці ў тумане
Тых непакорных дзевяці.

Спакойна, без размоў ішлі.
Наўкола, як акінуць вокам,
Ляжалі ў немаце глыбокай
Ад дыму чорныя палі.

Ішлі туды, дзе сонца ўсход...
Чацвёра спераду. За імі —
Шчэ трое, кожны з карабінам,
А двое неслі кулямёт.

Байцы і мсціўцы ў новы бой
Ішлі упэўнена, паволі...
А мне здалося: гэта ў поле
Аратыя ідуць вясной.

Пераклаў Хведар ЖЫЧКА.

Мілан ЛАЙЧАК

## ПАРТЫЗАНСКІЯ НОЧЫ



Хіба зямля забудзе
Сляпыя далягляды,
Калі канали людзі
У холадзе і брудзе —
Ад куль, ад ран, ад здрады.

Акопы ранак росіць,
Парослыя травою...
Свет перш, як плод прыносіць,
Заходзіцца крывёю.

Атрады ў страляніну
Ішлі сцяжынай горнай,
Каб вызваліць краіну
З абдымкаў смерці чорнай.

Паўстаў, хто быў на доле,
Згараў жыўцом у пекле.
І раптам ноч няволі
Пражэктары рассеклі.

Хіба зямля забудзе
Начэй адчайных горыч,
Калі да сонца людзі
Ішлі са смерцю поруч.

Акопы ранак росіць,
Парослыя травою.
Свет перш, як плод прыносіць,
Заходзіцца крывёю.

*АПАВЯДАННЕ*

# ІЙЗА

Лілі ПРОМЕТ

ЖЫХАРЫ ДОМА ўжо да гэтага прывыклі: зноў настае такі дзень, калі Ійза прыходзіць сюды з другога канца горада, доўга ў нерашучасці стаіць ля варот, нарэшце асцярожна адчыняе веснічкі, зачыняе за сабой гэтак жа старанна, набліжаецца неяк падскокам, кароценькімі крокамі і націскае кнопку званка. На твары яе страх, напружанне і надзея.

Ёй заўсёды адчыняюць. Калі гэтага не зрабіць, яна можа прастаяць тут цэлы дзень і званіць безупынку.

На твары Ійзы выраз няёмкасці і просьбы прабачэння.

— Пасла, калі ласка! — просіць яна.

— Яго няма,—адказваю я, як звычайна.

— Яго няма дома?—пытае жанчына.

— Так, яго няма.

— Я прыйшла па пытанні дзіцяці.

— Пасла няма.

— Ён што, паехаў?—пытае Ійза, запінаючыся ад хвалявання.

— Так, ён паехаў.

— А калі вернецца?

— Ён не сказаў.

Тут, у шматкватэрным доме, пасол ніколі не жыў, гэты дом і не прыдатны пад пасольства. Ійза працягвае стаяць, гледзячы недаверліва, думае аб чымсьці і не ідзе.

Затым усё пачынаецца спачатку.

— Пасол дома?

— Не, яго няма.

— Я прыйшла па пытанні свайго дзіцяці.

— Пасла няма.

— Па пытанні дзіцяці, — паўтарае жанчына настойліва. Яна не ўпэўнена, што я разумею.

— Але ж пасла няма.

— Ён паехаў?

— Ну, так.

— Калі ж ён вернецца?

— Няскора.

— Не вернецца?—ківае галавой жанчына.

— Не.

Не мае сэнсу гаварыць ёй, каб яна шукала пасла не тут, што ён тут не жыве. Ійза не паверыць, мы спрабавалі.

— Ён што, таксама паехаў на лодцы? — пытае яна шэптам, і позірк яе пільнуе за маім ротам.

— Не,—кажу я.—Пасол паехаў поездам.

Гэта адзінае, чым я магу дапамагчы няшчаснай жанчыне.

Ійза ківае і глыбока ўздыхае, відаць, мае словы аб тым, што пасол паехаў не на лодцы, супакойваюць яе.

Выйшаўшы за вароты, Ійза садзіцца на край тратуара, у руках яе нешта, што яна ўважліва разглядае. З расказаў вядома, што гэта перавязаная стужачкай пасма валасоў немаўляці, якую Ійза заўсёды носіць з сабой.

Я ведаю, куды яна цяпер пойдзе. Яна пойдзе ў глыбокім задуменні, натыкаючыся на прадметы, сутыкаючыся з сустрэчнымі людзьмі, не адчуваючы болю. Яна нібы шукае кагосьці ўтаропленым удалеч позіркам, паспешліва, горача мармыча штосьці сабе самой і размахвае рукамі. Часам яна спыняецца, затым зноў кіруецца ў дарогу і тады неверагодна спяшаецца.

Яе нельга назваць душэўна хворай, яна можа жыць у свайго старэнькага бацькі. Ён разумее: няма сэнсу ўтрымліваць дачку, калі яе памутнелы розум сабраў велізарны боль у сэрцы. І калі зноў настае гэты дзень і Ійза знікае з дому, стары пахмурна працягвае сартаваць кветкавыя цыбуліны. Яны ў яго на стале, на ложку і на падлозе. Яго гора пераходзіць у клопаты аб кветках, ён сочыць за тым, каб у час высадзіць іх у грунт або перанесці клубні на зімоўку. Бяда не папя-

Учора толькі падарыў табе
Лясны гушчар даспелых ягад
кошык.
Яшчэ іх смак палае на губе,
А ты ўжо ў новы падзешся
пошук.

## Ян КОСТРА



### ПАД ЦВІЦЕННЕМ ДРЭЎ

Нас прыцягвае спрадвек
Скарбам лепшым — плёчам
спелым
Дрэва, як і чалавек...
Глянь, красуе вішня ў белым.

Веццё хілячы на плот,
У сваёй майстэрні — садзе
Ціха вяжа з промняў плод
З непакоем у паглядзе.

Час ідзе, як аратай.
Новы цвет — старая вішня.
Сад мой росны, расцвітай!
Нам насустрач восень выйшла.

## Юліус ЛЕНКА



### ПАКУЛЬ ЖЫВЕ НА СВЕЦЕ ЧАЛАВЕК

Пакуль жыве на свеце чалавек,
Ён сустракае беды і няўдачы.
І ўсё ж за долю лепшую ўвесь
век
Вядзе свой паядынак да астачы.

Не раз вінтоўкі зыркалі ўначы
І высявалі чорныя зярняты.
Ды сцеле ўсё ж, па гонях
ідучы,
Жытам пасцель вясновую
араты.

Аслепнуўшы, згаралі гарады,
А людзі родны кут не
пакідалі,
На папялішчы ўзводзілі сады,
Будзілі першым пацалункам
далі.

І колькі чоўнаў штармавая бель
Схавала ў цёмнай бездані
навекі,
Ды хтосьці зноў ступіў на
карабель,
Не баючыся грознай небяспекі.

## Павел ГОРАЎ



### КРЫНІЦА

Якая чыстая, зірніце,—
Наскрозь прасвечваецца дно.
Збан залаты плыве ў зеніце,
Ліе ў яе сваё віно.

Іскрыцца пена вадаспаду.
Ад спёкі млее галава.
Нясцерпна зморамы прысяду
Каля гаючага пітва.

Я зачарпну яго рукамі.
Я змыю стомленасць сваю.
І — доўга прагнымі глыткамі
З далоні ўласнай сонца п'ю.

Хачу я, каб крыніцу гэту
Мы назаўсёды зберaглі.
Вярнуся нават з тога свету
На звон бацькоўскае зямлі.

## Мілан РУФУС



### ЧАЛАВЕК

Напоўніш кош —
з каша ўцякае ўлоў.
Ах, чалавеча, мудры рыбалоў!..

Ваду лавіў, і сам быў, як вада.
І адыходзіў хутка так—шкада...

Куды? Заўжды пытанне паўстае.
Зямля прымала споведзі твае.

І твой праклён, калі тугі мурог
Сахою кроіў.
Жыў, інакш не мог.

І спраў тваіх, турбот тваіх
падлікі
Гавораць: быў.
Быў смешны? Быў вялікі?

Пераклаў Пятрусь МАКАЛЬ.

*На той бок*

# МЯЦЕЖНЫЯ УНІВЕРСІТЭТЫ

Аднойчы на пытанне аднаго высокапастаўленага заакіянскага госця, чым выкліканы няспынныя студэнцкія хваляванні ў Іспаніі, Франка адказаў, што гэта «хвароба маладосці, якая з цягам часу праходзіць». Але састарэлы генералісімус аказаўся дрэнным прарокам. «Хвароба» аб якой ён гаварыў, не толькі не прайшла, але, наадварот, у апошні час рэзка абвастрылася. Мадрыд і Саламанку, Мурсію і Бiльбаа, Сарагосу і Барселону ўвесь час узрушваюць бурныя выступленні студэнтаў, якія нярэдка выліваюцца ў жорсткія сутычкі з паліцыяй.

І справа тут не ў маладосці і нясталасці. Сур'ёзныя сацыяльна-эканамічныя прычыны ляжаць у аснове незадаволенасці маладых іспанцаў. Франкісцкі рэжым рэзка абмежаваў дзейнасць студэнтаў. Аднак новае пакаленне не жадае жыць па старых канонах: так, яно не прызнае фашысцкага прафсаюза СЭУ, створанага ва ўніверсітэтах. У гэты прафсаюз, які кантралюецца ўрадам, студэнта залічваюць прымусова. У яго задачу ўваходзіць выхаванне юнакоў і дзяўчат ў духу фалангісцкай дактрыны. Нежаданне моладзі прызнаваць гэты сіндыкат прымусіла ўлады стварыць тры гады назад Асацыяцыю студэнтаў. Але і яна не апраўдала спадзяванняў: студэнты пагарджаюць ёй таксама, як і СЭУ. Іспанскія юнакі і дзяўчаты змагаюцца за стварэнне сваёй уласнай дэмакратычнай арганізацыі, за права выбіраць у яе сваіх прадстаўнікоў.

Коснасць і руціна, якія пануюць ва універсітэтах, устарэлыя падручнікі і метады выкладання не адпавядаюць сучасным патрабаванням. Навучанне платнае. Даводзіцца плаціць літаральна за ўсё: за экзамены і афармленне дакументаў, за карыстанне літаратурай, за лекцыі, здачу дзяржаўных экзаменаў, дыплом і інш. Сярод універсітэцкай прафесуры нярэдка сустракаюцца выпадковыя людзі, якія занялі пасады дзякуючы сваім цесным сувязям з кіруючай фалангісцкай партыяй.

У Іспаніі дзецям працоўных цяжка атрымаць вышэйшую адукацыю. Студэнтам даводзіцца цярпець нямала нястач. Але і пасля атрымання дыплома не вельмі проста ўладкавацца на работу. У сувязі з гэтым студэнт-аграном Хесус Радрыгес з засмучэннем заўважыў: «Хутка мы канчаем вучобу. Нас 40 чалавек. Але толькі васьмярым маім таварышам абяцаюць работу».

У Мадрыдзе 40 працэнтаў выпускнікоў вну застаюцца без работы, 30 працэнтаў перабіваюцца выпадковымі заробкамі. 73 працэнты фізікаў, якія атрымалі дыпломы ў Іспаніі пасля 1940 года, вымушаны былі адправіцца на чужыну, таму што яны не здолелі выкарыстаць свае веды на радзіме.

Прычына такога становішча крыецца перш за ўсё ў тым, што іспанская эканоміка перажывае застой, які нараджае масавае беспрацоўе не толькі сярод працоўных, але і сярод вучоных, інжынераў і тэхнікаў. Апрача таго, беспрацоўе сярод кваліфікаваных спецыялістаў тлумачыцца тым, што ўлады асігнуюць мізэрныя сродкі на навуковыя даследаванні, выдаткуючы велізарныя сумы на ўтрыманне паліцэйскага і рэпрэсіўнага апарата. «У Іспаніі, — горка скардзілася днямі адна сельская газета, — няма месца для вучоных, якія вядуць даследчую работу».

Іспанская моладзь выйшла на вуліцы, каб зламаць застарэлую, косную сістэму адукацыі і дабіцца рэформы асветы, каб зрабіць яе сучаснай і даступнай працоўным. Яна таксама дабіваецца спынення паліцэйскіх рэпрэсій, вызвалення студэнтаў і выкладчыкаў, арыштаваных за ўдзел у мітынгах і забастоўках. Яна патрабуе вывесці з аўдыторый узброеных паліцэйскіх, чыя прысутнасць, зразумела, не садзейнічае нармальнаму працэсу вучобы.

Яе выступленні зліваюцца з гераічнай барацьбой рабочага класа за карэнныя сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні і дэмакратызацыю ўсяго палітычнага жыцця Іспаніі. Сёння ў калонах бастуючых рабочых ідуць студэнты, якія падтрымліваюць іх эканамічныя і палітычныя патрабаванні.

Мужнасць і стойкасць іспанскай моладзі, якая змагаецца, выклікае захапленне. Бо па існуючых у Іспаніі законах забастоўка прыроўніваецца к мецяжу, «змове супраць бяспекі дзяржавы». За гэта — турма і катарга. Аналізуючы прычыны хваляванняў у іспанскіх універсітэтах, швейцарская газета «Трыбюн дэ Лазан» піша: «Калі моладзь, якую паліцыя амаль штодзень збівае на вуліцах і ў камісарыятах, моладзь, якую душаць бомбамі і слязістым газам, усё ж зноў і зноў выходзіць на вуліцу, дык гэта значыць, што ёю кіруе гарачае імкненне да свабоды, а яно мацней за рэпрэсіі».

**Луіс СЕРАНО,**
(ТАСС).

# ЗНАХАРЫ, РЭКЛАМА І ВЫНІКІ

Сенегал — адна з нямногіх краін Афрыкі, аб якой нельга сказаць, што з мнагажонствам там скончана. Хоць газеты і радыё вядуць актыўную прапаганду супраць мнагажонства, яно ўсё яшчэ захавалася, асабліва ў правінцыях, дзе працэнт пісьменнасці невысокі.

Боязь, што муж можа ўзяць другую жонку, прымушае сенегальскіх жанчын змагацца са шкоднай традыцыяй сваімі метадамі. У пошуках сродкаў яны нярэдка робяцца ахвярамі ашуканцаў. Не так даўно ў краіне з'явілася дзіўная «эпідэмія». У многіх мужчын раптам пачалі балець жываты. Бальніцы былі перапоўнены. Як потым высветлілася, знахары-марабу, аб'яднаўшыся ў карпарацыю, распусцілі чуткі, нібыта яны вынайшлі «цудадзейны парашок», які дапамагае захаваць каханне мужа. Сотні легкаверных жанчын куплялі гэтае зелле. Знахаркі гатавалі яго з тоўчаных галоў яшчарак, шэрсці з хваста гадавалага барана і індыйскіх канапель, варылі ў нейкай бурай вадкасці, састаў якой так і не ўдалося высветліць, потым сушылі. Жанчыны падавалі гэта зелле мужчынам у выглядзе прыправы да вячэры. У справу прыйшлося ўмяшацца паліцыі...

Мала чым, хіба толькі размахам справы, адрозніваюцца ад метадаў знахароў дзеянні некаторых фармацэўтычных манаполій развітых капіталістычных краін, якія збываюць сваю прадукцыю ў афрыканскія дзяржавы. Імі ў Сенегале былі, напрыклад, шырока разрэкламаваны спецыяльныя гатункі мыла «Світ соп», «Асід соп» і іншыя, якія нібы надаюць скуры эластычны, прыемны пах і светлае адценне. У рэкламных лістках нават сцвярджалася, што мужчынам нібы больш падабаюцца жанчыны са светлай скурай. Некаторыя прадстаўніцы прыгожага полу клюнулі на гэты рэкламны трук. Неўзабаве на вуліцах гарадоў з'явіліся афрыканкі з шэрымі, рыжымі і іншых колераў плямамі. Каб выраўняць колер, давялося купляць больш мыла і падоўжыць касметычныя сеансы. А тут яшчэ выявілася, што ўжыванне патэнтаванага мыла вядзе да скураных захворванняў.

Плямістыя жанчыны з цяжкасцю адмыліся ў моры. А пад уздзеяннем разгневаных мужоў сенегальская камісія па праверцы якасці тавараў пачала больш падазрона ставіцца да прадукцыі заходніх фірм для Афрыкі.

**Ю. ФЕДУЦІНАЎ,**
карэспандэнт ТАСС.
Дакар.

рэджвае аб сваім прыходзе, трэба заўсёды быць пільным—буры ж і ўраганы не набліжаюцца да твайго саду, як карова са званочкам на шыі.

На градках, пад акном у старога — яго вясна, лета і восень. Пачынаецца з блакітных пралесак і, вядома, з цюльпанаў і нарцысаў, а ў лістападзе, нават пасля першага снегу, яшчэ можна знайсці ля яго парога цвітучыя анюціны вочкі.

Прайшло ўжо шмат гадоў з таго часу, калі Іійза хацела кінуцца з абрыва ў хвалі, а бацька ўтрымаў яе і прывёў дамоў. Павёз яе далей ад мора і цяжкіх успамінаў, каб не было перад вачыма таго берагу, дзе Іійза крычала ўслед лодцы, якая хутка аддалялася:

— Аддайце маё дзіця!

Гэта здарылася ў час уцёкаў фашыстаў. І смурод іхніх злачынстваў праходзіў скрозь пясок дзюнаў, узнімаўся з брацкіх магіл і супрацьтанкавых рвоў.

Іійза калыхала дзіця і гаварыла сваякам мужа, што ні пры якіх умовах не пакіне радзіму. Ні ёй, ні яе сыночку няма чаго баяцца, за імі няма ніякай віны. Няхай хаваюцца тыя, пад кім зямля гарыць!

— Тады заставайся! — парашылі сваякі мужа.

Яны беглі ў густым тумане, падманам занеслі ў лодку дзіця, закручанае ў коўдру.

Гэтае ўкрадзенае малое цяпер, мабыць, стала ўжо юнаком, вечарамі водзіць сваю дзяўчыну ў кіно і на танцы і гаворыць ёй ласкавыя словы на чужой мове. А для Іійзы час спыніўся.

Яна і не глядзіць на фотакартку юнака, якую прыслалі ёй аднекуль з-за мора. Гэта чужы для яе, незнаёмы чалавек. Іійза сядзіць перад нашым домам на краі тратуара і разглядае перавязаную стужачкай пасму валасоў.

Ад нас пойдзе яна ў парк, гэта ўжо вядома. У Іійзе захавалася яшчэ штосьці ад мінулай яе красы, і дзіўна — у яе разумны твар, ясныя і кемныя вочы. Усё астатняе як у вар'яткі: адзежа, капялюш і паходка. Але тое, што яна цярпліва і ўпарта шмат гадоў запар імкнецца адшукаць замежнага пасла, які вярнуў бы ёй украдзенае дзіця, не асмелішся назваць вар'яцтвам. Хутчэй—любоўю.

Неспакой Іійзы ўсё нарастае. Яна кружыць па парку, свідруе ўсіх позіркам шукання—і знаходзіць. Сярод кустоў у калясачцы ляжыць малое, яно ссе соску і сочыць блакітнымі вачыма за лістотай, што хістаецца пад ветрыкам. Маці яго на лаўцы чытае кнігу.

Іійза хаваецца за кустом, у вачах яе радасць. Адзін скачок— і яна ля каляскі, хапае дзіця на рукі, песціць яго, цалуе рот так, што малы заходзіцца ад крыку, пакуль да смерці спалоханая маці не паспявае на дапамогу.

Іійза не супраціўляецца, вусны яе перасмыкнуты, рукі зноў пустыя, вочы поўныя слёз. Яна паварочваецца, кідаецца прэч, і цішыню гарадскога парку прапазае лямант:

— Аддайце маё дзіця!

З эстонскай. Пераклала Еўдакія ЛОСЬ.



Калектыў Міністэрства культуры БССР глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці Браніславы Сцяпанаўны Матвіенкі і выказвае спачуванне сям'і і родным нябожчыцы.

Алег ЧАРНАГУЗ

## ЯК НАБЫЦЬ СЛАВУ ІНТЭЛЕКТУАЛА

У НАШ ЧАС мы настолькі прывыклі да інтэлектуалаў, што перасталі здзіўляцца і захапляцца імі. Мабыць, таму і ўспрымаем іх, як нешта звычайнае, будзённае. А між тым, быць сучасным інтэлектуалам не так і лёгка, хоць некаторыя таварышы і запэўніваюць, што інтэлектуалам можа стаць кожны, хто толькі пажадае, дастаткова мець густую бараду, а таксама Вялікую Савецкую Энцыклапедыю ці Украінскую Савецкую Энцыклапедыю або яшчэ лепш Украінскі Савецкі Энцыклапедычны слоўнік.

Я ведаю шмат таварышаў, якія падпісваюцца на «Вокруг света», «Всесвіт», «Иностранную литературу», «Знання та праця». У некаторых ёсць нават «Людина і світ», альбомы з рэпрадукцыямі Рэмбранта, Ван-Гога, Пікасо і карціны Таццяны Галамбіеўскай. Але, наколькі мне вядома, ніхто з іх інтэлектуалам не стаў. Бо ў гэтай справе мала мець у сваёй бібліятэцы Эрнеста Хемінгуэя, Праспера Мерыме, Уільяма Фолкнера, Джона Апдайка, Самерсета Мэма, Агату Крысці... Да гэтага трэба яшчэ мець і прыродную схільнасць. Бо інакш нават пры наяўнасці падпісных выданняў і даведнікаў па гарадах свету, пачынаючы ад Абакана да Крывога Рога, усё адно інтэлектуала з вас не выйдзе.

Каб набыць славу інтэлектуала— трэба адпаведна і знешні выгляд мець такі, каб кожны, хто ні глянуў на вас, беспамылкова сказаў:

— Стопрацэнтны інтэлектуал!

Пасля таго вы павінны зірнуць і на яго. Але так, каб ён адразу адчуў вашу інтэлектуальную перавагу, а сам сабе здаўся нікчэмным суб'ектам з прэтэнзіямі правінцыяла.

Гэта адна з найпершых умоў.

Другая ўмова—размаўляйце ўсё роўна пра што, на любую тэму з неахвотаю, так, нібы між іншым, час ад часу цытуючы то Спінозу, то Лукіна Вісконці, але ні ў якім разе не спасылайцеся на свайго айчыннага мысліцеля, няхай ён будзе нават такога ўзроўню, як Рыгор Скаварада. Па-першае, спасылаючыся на свайго, вы адразу ў вачах прысутных з сапраўднага інтэлектуала спусціцеся да ўзроўню звычайнага балабона, а з цягам часу ператворыцеся ў вузкалобага тупіцу. Па-другое, хтось з прысутных можа кінуць вам у вочы:

— Гэтых слоў у Скаварады няма!

Спрабуйце яму запярэчыць. А ён, зануда, возьме і палезе да стэлажа па томік філосафа-дэмакрата, і тады пры ўсёй шаноўнай публіцы вытаўча вас, як шалудзівага ката. Вам гэта патрэбна?

Іншая рэч—мысліцель ці дзеяч замежны: Гегель, Бісмарк, Напалеон, Бернард Шоў або камісар Мегрэ. Калі хто і кіне вам зняважлівую фразу: «Такога ў Бісмарка няма!» — або: «Нешта я гэтага ў Напалеона Банапарта не сустракаў»,—не адчайвайцеся. Памятайце: наступ—найлепшая абарона. Удар праціўніка адразу ж парыруйце сваім ударам.

— Яно і зразумела. Гэта фраза з яго неапублікаванага ліста з вострава Елены да цёткі Жорж Санд дэ Сіка. Такі ліст вы чыталі?

Хай паспрабуе, нахаба, пацвердзіць ці яшчэ хоць раз за вечар разявіць рот! Цяпер бярыце быка за рогі і выраблайце з ім усё, што захочаце. Цытуйце Мюсэ і Дугласа Скота, Федэрыка Феліні і Луіса Бунюэля, расказвайце пра жыццё Джоан Баэз і Монікі Віці, Уільяма Сараяна і Джона Галсуорсі.

Далей спыніцеся на кіназорках, пачынаючы ад Айседоры Дункан, Аліві Коул і канчаючы Марлонам Брандо і Луі дэ Фюнэсам. Не варта чапаць Сафі Ларэн, Брыжыт Бардо і Джыну Лалабрыджыду.

— Гэта пройдзены этап,—можа хтось кінуць рэпліку.

А вось няхай паспрабуе сказаць што-небудзь, калі вы пачнеце апавядаць пра творчы шлях Ванесы Рэдгрэйв або, напрыклад, расказваць біяграфію Акіра Курасавы. Можаце закрануць біяграфіі Эйсебіо, Пеле, Джона Бэста ці Джаіча. Футбалісты— гэта ж модна. Галоўнае—дэталізуйце. Расказвайце, нібыта з кожным, пра каго ідзе гаворка, вы выраслі або сядзелі разам на апошняй парце і задачкі ў яго спісвалі.

— Калі Эйсебіо ўпершыню ўбачыў сапраўдны футбольны мяч,—дэталізуеце вы,—ён зарыдаў, як дзіця. Яго ўвесь Гарлем супакойваў,—і тут жа тлумачыце:—Гарлем—гэта не тое самае, што гарэм, таварышы. Гарлем— гэта азначае негрыцянскі квартал.

Калі заўважыце ў каго на твары нахабна-іранічную ўсмешку, не звяртайце ўвагі на дробязі. Магчыма, хтось з прысутных неспадзявана ляпне:

— А прыгадайце нашага Анатоля Бышаўца, калі яго запрасілі ў Аўстрыю на тэлестудыю...

У той жа момант зрабіце такі выраз твару, нібы вы хацелі выпіць свежае яйка, а там было нявылупленае кураня. Паўтараю, гэта адна з найгалоўнейшых умоў. Не збівайцеся на Агатангела Крымскага або Лесю Украінку, не спасылайцеся на Драгаманава ці на Івана Труша. На вас адразу махнуць рукою і ніколі не пакінуць за вамі права насіць гордае імя інтэлектуала.

Калі вы надумалі здзівіць прысутных сваімі ведамі з гісторыі, то не расказвайце пра тое, што Кіева-Магілянская акадэмія ў свой час была цэнтрам асветы ўсяго славянства, а дачка Яраслава Мудрага—Ганна— выйшла замуж за караля Францыі. Гэта, як вам скажуць, тыповае не тое. Іншая справа—Людовік XIV. Яго жорсткасць і дзівацтвы. Або хітры і ліслівы кардынал Рышэльe. Версальскі замак. Елісейскія Палі, Луўр. Што вы там яшчэ ведаеце? Эльзас і Латарынгію? Гэтага досыць. Можаце перайсці на Рым. Ці вярнуцца назад у Парыж і праехацца па Сене. Пра яе берагі расказвайце з такім захапленнем, нібы там праляцела ваша дзяцінства. Але ні ў якім разе ў сваёй гаворцы не праводзьце аналогій Скажам, такіх:

— Ну, Сена якраз, як наша Снівада, калі хто быў на Віннічыне.

Лічыце тады, што ўсе вашы прэтэнзіі на званне інтэлектуала вы самі раздушылі ўласным чобатам. Засцерагаю вас ад такіх параляляў.

Можа здарыцца, што нехта з прысутных таксама захоча здзівіць публіку. Ну, напрыклад, расказаць пра апошняга атамана Сечы Запарожскай Калнышэўскага, які праседзеў у яме да 117 год і адмовіўся ад «волі», калі даведаўся, што Сечы ўжо няма. Або скажа:

— А ты ведаеш, як працаваў Сцяпан Руданскі, калі бацька адмовіўся яму дапамагаць, бо той пісаў «мужыцкаю моваю»?

Субяседнік можа і не працягваць. Скрывіце зняважлівую міну —і няхай ён замоўкне са сваім Руданскім! Бо Руданскі—гэта не эпоха, як і Таццяна Ларына са сваімі Ленскім і Анегіным. Яны для вас учарашні дзень, як і «Тарас Бульба» з «Мёртвымі душамі», і саромецца тут няма чаго. Таму, абклаўшыся Дароці Сэерс ці Эрлам Стэйнлі Гарднерам, не міргнуўшы вокам, пытайце:

— Глянь, калі ласка, у слоўнік, як правільна пісаць: фонікулёр ці фанікулёр?

Калі вам неспадзявана кінуць у вочы:

— Жоржа Сіменона чытаеш, ведаеш, што ёсць Луі дэ Фюнэс, і пытаеш, як пісаць... Дык ведай, што ні «фа» і ні «фо»; а «фу»... Фу-ні-ку-лёр.

Не звяртайце ўвагі на нявыхаваных выскачак. Хіба ім зразумець глыбіню вашай інтэлектуальнай душы, хіба ім ахапіць дыяпазон вашых ведаў? Ды не, ніколі, пакуль яны і дагэтуль захапляюцца «Героем нашага часу» і чытаюць «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным...».

Пераклаў з украінскай мовы Ул. ВАСІЛЕВІЧ.

(Друкуецца ў скарачэнні).

Лявон КУДЛА

## ШТРАФ

Я цяпер зарокся: ніколі больш не пайду на прагулку з рэдактарам. Думаў, пагавару з ім у вольную хвіліну, калі не перашкаджаюць ні наведвальнікі, ні тэлефонныя званкі.

Дачакаўся, калі сціхла ў рэдакцыі гарачка. Каля дзвярэй узяў рэдактара пад ручку, каб ніхто яго не захапіў.

— Пройдзем, кажу, свежым паветрам падыхаем, а заадно і пагаворым. Справа ёсць, а да цябе не дабіцца, не дазваніцца...

— Газета, што канвеер,—уздыхнуў рэдактар.—Падавай на яго ўсё лепшае. Ды каб цікава, трапна. Крытыка каб была...

Ідзём мы з ім па праспекце. Толькі пачаў яму расказваць пра свае творчыя задумы і клопаты, а ён...

— Пачакай, браце. Вунь ідзе паэт. Яго вершы даўно ў нас ляжаць. Хопіць за горла...

— А добрыя вершы?

— Каб жа... Хадзем на другі бок вуліцы.

Перайшлі. Пачынаю працягваць перапыненую гаворку. А ён...

— Пачакай, браце, насустрач ідзе драматург. П'есу яго пакрытыкавалі...

— Дык, можа, заслужана?

— Вядома. Але ён думае інакш. Пяройдзем на той бок вуліцы.

Перайшлі. Пачынаю зноў гаворку. Не паспеў, аднак, закончыць думку, а ён...

— Пачакай, браце. Вунь ідзе артыстка...

— Пакрытыкавалі?

— Не, пахвалілі.

— Дык што?

— Не дахвалілі. Званіла ў рэдакцыю, абуралася. Пяройдзем на той бок вуліцы.

Перайшлі, але не дайшлі: рэдактар крута павярнуў на другі бок. Даганяю яго:

— Што здарылася?

— Вядомы мастак ідзе.

— Недахвалілі?

— Горш. Змясцілі рэпрадукцыю карціны яго саперніка...

Так мы пераходзілі з аднаго боку вуліцы на другі, пакуль не аглушыў нас свісток міліцыянера.

— Чаму пераходзіце вуліцу ў недазволеным месцы, грамадзяне?!—спытаў міліцыянер і, выцягнуўшы кніжку з квітанцыямі, загадаў: — Плаціце штраф.

Рэдактар, не сказаўшы ні слова, аддаў грошы, нібы так і трэба было. Я спрачаўся, даказваў міліцыянеру:

— Бачыце, ён рэдактар. Нерваваўся, мітусіўся, кідаўся з аднаго боку на другі. Хай ён і плаціць. А мне за што?..

Не дапамагло. У міліцыянера свая служба. Ён нічога ведаць не хоча.

Давялося заплаціць...

А. БУДЗЕЙКА

## Жабрацкая хітрасць

*З Н-скай БІЯНАЛЕ*

**Што гэта! Новы вернісаж!**
**Навошта ж тут жалеза,**
**Шкілеты ў профіль і анфас,**
**Дзіравы шлем з абрэзам!**
**Хто чайнік выкінуў стары,**
**Два цюфякі, падрамнік!**
**Чаму нагамі дагары**
**Пампуе піва крамнік!**
**— Таму, што ў гэтым—навізна**
**Сучаснага мастацтва!**

. . . . . . . . . . . . . . .

**Заела старасць, сівізна,**
**Пайду на звалку, братцы.**

Міхась СКРЫПКА

## СПРЫТНЫ

**Ён твор ацэніць грам у грам,**
**Расставіць кропкі, коскі.**
**Масцітым—лаўры, фіміям,**
**Малавядомым — розгі.**

**І маючы ліцэнзіі,**
**У крытыцы набытыя,**
**Заўсёды б'е ў рэцэнзіі**
**Без промаху —**
**падбітага.**





Малюнкі Л. МУРАШКІ.


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04 аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62 аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.







Індэкс 63856 АТ 07363